НЕЗАЛЕЖНАЯ ГАЗЕТА

№ 41 (734) 2 лістапада 2011

www.nn.by

# Наша Ніва

ПЕРШАЯ БЕЛАРУСКАЯ ГАЗЕТА

Заснаваная ў лістападзе 1906. Аднoўленая ў маі 1991. Выдавец: Прыватнае прадпрыемства «Суродзічы». Выходзіць штотыднёва, у серады

## Кубак Вітаўта: «Ліцвіны» разграмілі Маскву

**Амерыканскі футбол — гульня мужчынская, а не жорсткая. Пра «Ліцвінаў» і «Зуброў».** **Старонка 9.**




# Хто другі пасля Лукашэнкі?

Каму пяройдзе ўлада ў выпадку сыходу Лукашэнкі? Каму ўлада належыць фармальна і неафіцыйна? **Самыя ўплывовыя людзі** у атачэнні Лукашэнкі. **Старонка 3.**



**Тэндэнцыі**

## «Прыйшоў час купіць білет да Мінска»

Анатоль **Лябедзька заклікаў** палітычных уцекачоў Плошчы вярнуцца.

«Час выязджаць з Беларусі і час вяртацца. Пасля 19 снежня дзясяткі актывістаў аселі ў замежжы. Рызыкну заявіць, што ледзь не ўсім (выключэнне, вядома, ёсць) прыйшоў час купіць білет да Мінска.

Самы час, як паказвае прыклад Юры Карэтнікава. Так, улада, вядома, нагадзіць вяртанцам. Але па-дробнаму. На большае, як, напрыклад, крымінальны пераслед, кішка тонкая.

Так што, калі вы ў стане вытрымаць псіхалагічны прэс КДБ, 10–15 сутак за «спраўленне патрэбы ў неналежным месцы», то можна дапамагчы Радзіме на радзіме», — пра гэта лідар Аб'яднанай грамадзянскай партыі напісаў у сваім фэйсбуку.

Пасля падзей 19 снежня 2010 за мяжу выехалі некалькі дзясяткаў грамадскіх актывістаў, у тым ліку экс-кандыдат у прэзідэнты Алесь Міхалевіч, рэдактарка «Хартыі'97» Наталля Радзіна, заснавальнікі і кіраўнікі «Свабоднага тэатра» Мікалай Халезін і Наталля Каляда, выдатны сацыёлаг прафесар Андрэй Вардамацкі.

**Алег Гардзіенка**

**Палітыка**

### Ус пачынае кампанію за змену выбарчага заканадаўства

Плануецца сабраць мільён подпісаў. **Старонка 4.**



**Гаспадарка**

### Колькі будуць каштаваць прадукты, «як у Расіі»?

Вараная каўбаса па 70 тысяч. **Старонка 5.**



**Крымінал**

### У Мінску згвалцілі 9-гадовую школьніцу

Дзяўчынка ўспрыняла незнаёмца як міліцыянта. **Старонка 10.**



**VIP**

### Чыж у бел-чырвона-белым

Супрацоўнікі «Трайпла» замовілі партрэт гаспадара. **Старонка 16.**



## Дык падпісвайся!

«Наша Ніва» з'яўляецца ў кіёсках у Мінску ў сераду ад абеду, у рэгіёнах — у чацвер. На газету можна і падпісацца — глядзі **старонку 2.**

# Жыццё з 1 лістапада значна падаражэла

**Падняліся цэны** на лекі, транспарт, мабільную сувязь, паслугі ЖКГ і пошты, алкаголь і цыгарэты.

Мінімальная цана гарэлкі складзе зараз 22 000 рублёў. Хто не хоча — можа не піць. Але з лекамі так не зробіш. Між тым, даражэюць і яны. Абвал рубля не пакінуў выбару імпарцёрам. Чакаецца, што разам з імпартнымі прэпаратамі падаражэюць і айчынныя, што на 70—75% складаюцца з замежных субстанцый, якія зараз аплачваюцца валютай па рынкавым курсе.

Стаў даражэйшы кошт праезду. У Мінску адна паездка зараз будзе абыходзіцца пасажыру ў 1300 рублёў (да гэтага часу было 950). Кошт праезду ў абласных і раённых цэнтрах падняўся да 1100 рублёў.

Уладальнікам «маршрутак» дазволілі самастойна ўсталёўваць тарыфы. У выніку цана адразу падскочыла да 3000—4500.

Новыя тарыфы ўстаноўлены і для прыгараднага аўтобуснага руху. Тут цэны падскочылі на 77—78%.

У гэтым месяцы за кватэры мы заплацім таксама па новых тарыфах з улікам двух тыдняў ацяплення. Плюс да таго вада: нарматыў спажывання вады — 140 літраў за суткі на аднаго чалавека. Усё, што звыш, — утрая даражэй.

Падаражэлі таксама мабільная сувязь і паслугі «Белпошты».

«Па сваім узроўні даходаў беларусы вярнуліся ў 2005 год», — так ацаніў сітуацыю эканаміст Сяргей Чалы.

**Сяргей Гезгала, інф. БелаПАН**

### Фотафакт

**Новы МАЗ — капотны**

МАЗ пачаў сертыфікацыйныя выпрабаванні эксклюзіўнага капотнага аўтамабіля. Пра гэта паведаміў галоўны канструктар МАЗа па аўтатэхніцы Павел Шабанаў. Седлавы цягач МАЗ-6440РА мае абсалютна новы рухавік, створаны ААТ «Мінскі маторны завод» сумесна з расійскім вытворцам ААТ «Тутаеўскі маторны завод» з выкарыстаннем электронікі фірмы Bosch. Рухавік магутнасцю 600 конскіх сіл адпавядае экалагічнаму стандарту Еўра-4. Усталяваная аўтаматычная скрынка перадач Allison 4500R. Цягач выкарыстоўваецца ў счэпцы з паўпрычэпам МАЗ-975830 і прызначаны для перавозак на вялікія адлегласці.

**Паводле БелТА**



MAZ.BY





## З Брэста ў Гродна паўз Белавежскую пушчу за дзве гадзіны

Гэта не магістраль, а хутчэй звілісты **турыстычны маршрут**.

7 лістапада афіцыйна адчыніцца новая траса, якая злучыла абласныя цэнтры. Агульная працягласць дарогі складае каля 230 км. Якасць трасы не горшая, чым у Германіі: ідэальнае пакрыццё, выдатная ілюмінацыя святлоадбівальнікамі, яркая разметка.

Дарога надзвычай звілістая, мае шмат закругленняў. Вандроўнік можа нацешыцца з белавежскіх пейзажаў.

У месцах верагоднага выхаду на дарогу дзікай жывёлы траса ў вялікай колькасці абсталявана адмысловымі падземнымі пераходамі. Прыпыначныя пункты для адпачынку маюць назвы мясцовых звяроў: «Воўк», «Зубр».

З вялікім густам і павагай да гістарычнага ландшафту выканалі дарожнікі кавалак трасы ў вёсцы Лыскава Пружанскага раёна. Насупраць стромкага Траецкага касцёла сучасную трасу на некалькі метраў перарывае старая бруканка.

Карацей, дарога збудавана з розумам і душою.

**СП**



VIRTUAL.BREST.BY

### Не ўсё ў жыцці апошні раз

# Дык падпісвайся!

**Падпіска праз Рэдакцыю**

Цана падпіскі праз Рэдакцыю на месяц складае 10000 рублёў.

Мы рэкамендуем падпісвацца праз Рэдакцыю.

Наша сістэма дастаўкі газеты за 5 гадоў даказала сваю надзейнасць. Мы зможам дастаўляць Вам газету хутчэй або з той жа хуткасцю, што «Белпошта».

**Каб штотыдзень атрымліваць газету, дасылайце адрасы і грошы за газету.**

1) Просім усіх ахвотных падпісацца паведамляць у Рэдакцыю свае адрасы і тэлефоны. Гэта можна зрабіць праз: тэлефоны: (017) 284-73-29, (029) 260-78-32, (029) 618-54-84, e-mail: dastauka@nn.by, паштовы адрас: 220050, г.Мінск, а/с 537.

2) Просім у бланку банкаўскага паведамлення ці паштовага перакazу дакладна і разборліва пазначаць адрас, у тым ліку паштовы індэкс і код пад'езда.

**Банкаўскія рэквізіты:**

ПВУП «Суродзічы», УНП 190 786 828

Адз. № 539 ААТ «Белінвестбанк», вул. Калектарная, 11, Мінск, код 739

Рахунак атрымальніка: 3012 740 628 011

Від аплаты: За газету «Наша Ніва»

**Падпіска праз «Белпошту»**

**Пачалася падпіска праз «Белпошту»** на 1-е паўгоддзе 2012 года:

індывідуальная падпіска (індэкс у каталозе — 63125) — 15040 руб./месяц;

для прадпрыемстваў (індэкс — 631252) — 18045 руб./месяц.

Падпісацца можна на кожнай пошце.

### Сцісла

**Крамы акругляюць цэны**

Цэны і тарыфы акругляць у сувязі з планамі Нацбанка вывесці з абарачэння разліковыя білеты наміналам 10 і 20 рублёў.

**Халіп: Да Саннікава спрабавалі падсадзіць «апушчанага»**

Жонка палітыка, Ірына Халіп, заявіла, што ціск на экс-кандыдата за кратамі ўзрастае з кожным днём. Па словах Ірыны, на мінулым тыдні ў камеру Саннікава падсадзілі чалавека, хворага на сухоты. А пасля гэтага хворага замянілі на асуджанага з «нізкім статусам». Самому Саннікаву сказалі, што ёсць адзіны выхад з сітуацыі — напісаць прашэнне аб памілаванні.

**Лябедзька перамог КДБ**

Кіраўніку Аб'яднанай грамадзянскай партыі Анатолю Лябедзьку вернуць пашпарт і асабістыя рэчы. Такі адказ прыйшоў на ягоную чарговую скаргу.

**Карэтнікава пасадзілі на 10 сутак**

Лідар незарэгістраванай арганізацыі «Правы альянс» Юрый Карэтнікаў асуджаны суддзёй Савецкага раёна Мінска Дзмітрыем Паўлючэнкам да 10 сутак адміністрацыйнага арышту за «дробнае хуліганства». Маўляў, «спраўляў натуральную патрэбу» адразу пасля шэсця на Дзяды. Назіральнікі сыходзяцца ў думцы, што гэта такая помста спецслужбаў за тое, што Карэтнікаў унікнуў затрымання пасля Плошчы. Карэтнікаў на мінулым тыдні вярнуўся ў Беларусь пасля амаль гадавой эміграцыі.

**У кожным райцэнтры адчыняць камісіёнку**

«Рэчы з другіх рук сталі сёння найбольш запатрабаванымі», — кажуць у Белкаапсаюзе.

**Пачнуць прадаваць зімовы дызель**

Гэтае паліва можна выкарыстоўваць да мінус 20 градусаў.

**Галыгін з «Лепрыконсамі» запісаў альбом**

У ім адчуваюцца ўплывы «Кіно», Depeche Mode, Горана Брэговіча. Называецца альбом «Падарунак».

**Зміцер Панкавец, Сяргей Макарэвіч, МБ**

### Самае чытанае за 26 кастрычніка — 1 лістапада

1. 9-гадовую дзяўчынку згвалцілі на мінскім аўтавакзале
2. Цэнзура на Tut.by: Вольскага адключылі ад эфіру
3. Наёмнікі Лукашэнкі
4. Як жыве Міхалок
5. Мінчукі пра Кадафі: «Шкада чалавека, хоць і сволач быў»
6. Дзяды. Шэсце ў Курапаты
7. «На чыгунцы нарастае абурэнне»
8. «Я афіцэр міліцыі і падтрымліваю Уса»
9. Як пражыць на 140 л вады ў суткі
10. «Абмен жонкамі» з брэсцкім каларытам

# Хто другі пасля Лукашэнкі?

**Каму пяройдзе ўлада ў выпадку сыходу Лукашэнкі? Каму ўлада належыць фармальна і неафіцыйна? Самыя ўплывовыя людзі ў атачэнні Лукашэнкі.**



Віктар Лукашэнка (справа) сканцэнтраваў у сваіх руках усе сілавыя ведамствы.

### Міхаіл Мясніковіч

Калі звярнуцца да заканадаўства, то артыкул 15 Закона «Аб прэзідэнце Рэспублікі Беларусь» адзначае: «У выпадку вакансіі пасады прэзідэнта ці немагчымасці выканання ім сваіх абавязкаў па прычынах, прадугледжаных Канстытуцыяй, яго паўнамоцтвы да прынясення прысягі новым выбраным прэзідэнтам пераходзяць да прэм'ер-міністра. Пры гэтым выбары прэзідэнта павінны быць праведзеныя не раней чым праз 30 дзён і не пазней чым праз 70 дзён пасля адкрыцця вакансіі».

Такім чынам, фармальна другім чалавекам у дзяржаве з'яўляецца прэм'ер-міністр Міхаіл Мясніковіч. Чалавек старога гарту, які папрацаваў яшчэ ў кіроўным апараце БССР.

Разам з тым, Мясніковіч, як і мінулыя прэм'еры, у асноўным засяроджваецца на эканамічных і сацыяльных пытаннях.

Варта адзначыць, што падчас мінулых прэзідэнцкіх выбараў кандыдаты хацелі разыграць карту з прэм'ер-міністрам. Людзі на плошчы Незалежнасці дабіваліся сустрэчы з Сідорскім, які б мог узяць уладу ў выпадку неабрання Лукашэнкі.

Тады гэты ход не прайшоў, Сідорскі так і не з'явіўся перад дэманстрантамі, а потым увогуле згубіў месца кіраўніка ўрада.

У Ліві падчас рэвалюцыі ўладу ўзяў чалавек з найбліжэйшага атачэння Кадафі, кіраўнік Міністэрства юстыцыі Мухамед Абд-аль-Джаліль Мустафа.



Мясніковіч – фармальна другі чалавек у краіне

PHOTO BYMEDIA.NET

### Рубінаў, Андрэйчанка, Міклашэвіч

Калі ў красавіку 2010 у Польшчы разбіўся самалёт з прэзідэнтам Лехам Качынскім, кіраванне краінай пераняў маршалак Сойма Браніслаў Камароўскі.

Фармальна ў Беларусі спікер верхняй палаты парламента з'яўляецца трэцяй у краіне асобай. Саветам рэспублікі цяпер кіруе 72-гадовы Анатоль Рубінаў.

Большую частку свайго жыцця Рубінаў адпрацаваў у навуцы. Ужо ў лукашэнкаўскі час ён быў намеснікам кіраўніка Адміністрацыі прэзідэнта. Рубінаў вядомы сваімі радыкальнымі, ледзь не сталіпісцкімі поглядамі.

Спікерам савета рэспублікі ён стаў летась, пасля пераводу Барыса Батуры ў старшыні Мінскага аблвыканкама. Для Рубінава месца ў парламенце — гэта сінекура. Праца, што не прыносіць турбот, але за якую мае грошы і прывілеі.

Аналагічна можна разглядаць і спікера палаты прадстаўнікоў Уладзіміра Андрэйчанку. Для яго месца ў парламенце таксама было ўзнагародай за верную службу ў Віцебскай вобласці.

Фармальна, Рубінаў і Андрэйчанка — гэта кіраўнікі органаў заканадаўчай улады ў краіне. Тым не менш, парламент ніколі не ўстае на шляху прапанованых прэзідэнтам і ўрадам.

Калі гаварыць пра судовую ўладу, то яна знаходзіцца ў руках старшыні Канстытуцыйнага суда Пятра Міклашэвіча. Сёння роля гэтага ўраджэнца Вілейшчыны зусім не заўважная, але можа непараўнальна вырасці ў выпадку надзвычайнай сітуацыі.

### Віктар Лукашэнка

Старэйшы сын Лукашэнкі займае сціплую пасаду памочніка кіраўніка дзяржавы па бяспецы. Але гэта значыць, што менавіта да яго сцякаецца ўся інфармацыя пра ўсіх і ўсё. Сёння без згоды Віктара не адбываецца прызначэння ніводнага сілавіка.

**У выпадку вакансіі пасады прэзідэнта яго паўнамоцтвы пераходзяць да прэм'ер-міністра »**

Ужо забылася супрацьстаянне КДБ і міліцыі за часамі Шэймана. Абедзве структуры цяпер у падначаленні Віктара Лукашэнкі. Генеральную пракуратуру, Следчы камітэт, Аператыўна-аналітычны цэнтр, Памежны камітэт таксама ўзначальваюць людзі, блізкія да Віктара.

Фактычна, са згоды бацькі Віктар Лукашэнка сканцэнтраваў у сваіх руках уладу над асноўнымі сілавымі ведамствамі краіны.

### Уладзімір Макей

Адзін з найбліжэйшых паплечнікаў Лукашэнкі — кіраўнік яго адміністрацыі. Макей мае ўплыў на прыняцце рашэнняў, Лукашэнка яму давярае.

Разведчык Макей валодае англійскай і нямецкай мовамі. Яму належыць роля камунікатара з Захадам.

Усе, хто быў знаёмы з Макеем, адзначаюць ягоны розум і хітрасць, якімі ён і дабіўся такога становішча. Менавіта Макея называлі аўтарам палітыкі «лібералізацыі», што была ў краіне ў 2008—2010.

### Жадобін і Зайцаў

У пераломныя гістарычныя моманты ўладу ў краіне нярэдка бярэ войска. Далёка за прыкладам хадзіць не патрэбна.

Пасля рэвалюцыі ў Егіпце, калі ад прэзідэнцтва быў адхілены Мубарак, уладу ў краіне ўзяла Найвышэйшая рада Ўзброеных сілаў на чале з міністрам абароны Хусэйнам Тантаві.

У беларускім грамадстве войска не мае такога аўтарытэту і прэстыжу, як у арабскіх краінах. Лукашэнка таксама перасцерагаецца, ставячы на пасаду міністра абароны не самых яркіх асобаў.

Цяпер міністрам з'яўляецца Юрый Жадобін, які не можа мець ніякіх палітычных амбіцый, бо нарадзіўся не ў Беларусі. Раней быў Леанід Мальцаў, аўтарытэт якога некалі зніштожыў Лукашэнка: публічна абвінаваціў у п'янстве і выгнаў з працы.

Затое прэстыжам і ўладай карыстаецца Камітэт дзяржаўнай бяспекі. Яго кіраўнік Вадзім Зайцаў не даваў падставаў засумнявацца ў сваёй лаяльнасці. За гэта КДБ атрымлівае ледзьве не абмежаваныя паўнамоцтвы, пра што сведчыць новы закон «Аб органах дзяржбяспекі». Зрэшты, Зайцаў, як і міністр унутраных справаў Куляшоў, таксама родам не з Беларусі.

**Зміцер Панкавец**



PHOTO BYMEDIA.NET

Макей мае ўплыў на Лукашэнку.

Каментар

# Наёмнікі Лукашэнкі

**Міністры абароны, унутраных спраў, кіраўнікі КДБ і Службы аховы прэзідэнта — усе яны нарадзіліся не ў Беларусі.**

Гэта ўнікальны выпадак у Еўропе XXI стагоддзя. Аднаму чалавеку падпарадкоўваюцца выканаўчая, заканадаўчая і судовая ўлада. Ён жа прызначае кіраўнікоў выбарчай камісіі і ўсіх вялікіх СМІ. Калі ён да кагосьці звяртаецца на нарадзе, той абавязаны ўскочыць. Яго сын Коля ў вайсковай форме прымае парад побач з татам, і генералы аддаюць ім чэсць.

І, аказваецца, такі султанат можа быць стабільнай формай кіравання ў XXI стагоддзі. Доза прапаганды, доза рэпрэсій — і вялікая частка насельніцтва лічыць, што яму пашанцавала.

Я запытаўся аднаго венесуэльскага палітолага, дзеля чаго Чавэс спансаруе Лукашэнку. «Бо ўзамен Лукашэнка перадае веды, як утрымліваць уладу». А гэта дарагога варта.

Лукашэнку прыйшлося ўжыць крайнія меры, каб дасягнуць «стабільнасці». Першы прэм'ер-міністр пры Лукашэнку, Чыгір, апынуўся ў турме. Старшыня парламента Шарэцкі вымушаны быў эміграваць, як і лідар пазапарламенцкай апазіцыі Пазняк. Віцэ-прэм'ер Ганчар і міністр унутраных спраў Захаранка зніклі: імаверна, іх забілі.

Лукашэнка зрабіў вывады з першых гадоў свайго кіравання. Надалей ён стараўся не дапускаць, каб у краіне з'яўляліся іншыя яркія асобы з палітычным значэннем.

Пасля гэтага ўсе прэм'ер-міністры і кіраўнікі палат парламента былі людзьмі, старэйшымі за Лукашэнку, па запамінальнасці роўнымі вядру. Але асабліва цікавы быў ягоны падыход да выбару кіраўніцтва сілавых ведамстваў.

На сёння ніхто з кіраўнікоў чатырох асноўных сілавых структур — Службы бяспекі прэзідэнта, Камітэта дзяржаўнай бяспекі, Міністэрстваў унутраных спраў і абароны — не нарадзіўся ў Беларусі. Усе яны родам з іншых краін былога СССР. Пераважна вайскоўцы і іх дзеці. Гэта былі людзі, для якіх распад СССР быў трагедыяй не толькі геапалітычнай, але і асабістай.

Згодна з законамі Беларусі, неўраджэнец не мае права стаць прэзідэнтам краіны. Такім спосабам Лукашэнка засцерагаецца ад узнікнення ўнутры сістэмы постаці, якой бы стукнула ў галаву скінуць дыктатара сілай.

Нешта падобнае было ў султанаў — янычары. У той жа логіцы мысліў Кадафі, які стварыў асабістую ахову з жанчын.

Аднак і султан урэшце робіцца залежным ад сваіх наймітаў. Гэта і ёсць мінай запаволенага дзеяння пад беларускую дзяржаўнасць.

Паказальна, што ў Маскве пасля адстаўкі аселі былы шэф лукашэнкаўскай адміністрацыі і міністр замежных справаў Латыпаў, былыя шэфы КДБ Мацкевіч і Ерын, былы міністр унутраных спраў Навумаў. Яны працуюць там у непразрыстых пуцінскіх бізнэс-структурах.

Лукашэнкаўская мадэль дыктатуры зрабіла нашу цэнтральнаеўрапейскую дзяржаву татальна залежнай ад Расіі і ў бяспецы, і ў эканоміцы, і ў кадравым плане.

**Андрэй Дынько**

# Дзмітрый Ус пачынае кампанію за змену Выбарчага кодэксу

**Галоўная мэта — зрабіць празрыстым і кантраляваным падлік бюлетэняў.**

Былы кандыдат у прэзідэнты і палітвязень Дзмітрый Ус пачынае кампанію за перагляд выбарчага заканадаўства. Ён лічыць, што без гэтага зрабіць будучыя выбары ў краіне празрыстымі і свабоднымі немагчыма.

З гэтай ідэяй Ус ішоў на прэзідэнцкія выбары. Ягоная думка: не можа быць ніякіх зменаў, пакуль прадстаўнікі альтэрнатыўных камандаў не могуць удзельнічаць у падліку галасоў.

Ус сёння кажа, што змены ў Выбарчы кодэкс ужо падрыхтаваныя. У ранейшых інтэрв'ю Ус казаў, што плануе сабраць пад гэтую ініцыятыву мільён подпісаў выбаршчыкаў.

Кампанія павінна была стартаваць нават у тым выпадку, калі сам Ус працягваў бы знаходзіцца за кратамі.

«Калі не зміняць заканадаўства, то будуць рабіць з нас дурняў да той пары, пакуль Коля [Лукашэнка] не прыйдзе да ўлады», — кажа Ус.

У ЦВК кажуць, што цяпер Ус павінен зарэгістраваць сваю ініцыятыўную групу, а ўжо потым пачаць збіраць подпісы.

Ранейшыя ініцыятывы незалежнага грамадства так і не атрымалі шырокі распаўсюд. Можна ўзгадаць, як два гады таму партыя БНФ выступала за змяншэнне мытаў на замежныя аўтамабілі, але сабраць неабходныя подпісы так і не ўдалося.

Дарэчы, праз два месяцы скончацца паўнамоцтвы ў сённяшняга склада ЦВК. Пакуль невядома, ці працягне працу Лідзія Ярмошына, ці сыдзе на пенсію.

**Зміцер Панкавец**

**«Я афіцэр міліцыі і падтрымліваю Уса»**

«Ус — сапраўдны мужык. Я афіцэр міліцыі, таксама просты беларускі мужык, як і Дзіма. І яго я падтрымліваю. Калі людзі думаюць, што маладым міліцыянерам у Беларусі соладка, то яны моцна памыляюцца. Есці няма чаго, як усім, штомесяц даводзіцца зводзіць канцы з канцамі, так кепска яшчэ ніколі не было. Міліцыя з народам!» — такі каментар прыйшоў на сайт nn.by.




Ус не адмаўляецца ад сваёй ідэі.

PHOTO BYMEDIA.NET

**Фотафакт**



СЯРГЕЙ ГУДЗІЛІН

**Дзяды-2011**

30 кастрычніка ў Мінску прайшло штогадовае шэсце на Дзяды. У гэты дзень калона пад бел-чырвона-белымі сцягамі рушыць ад Парку Чалюскінцаў да Курапатаў. Людзі нясуць з сабой крыжы. Традыцыя бярэ пачатак у 1989 годзе.

Сёлета на шэсце, арганізаванае КХП-БНФ, выйшла тысяча чалавек. Было шмат моладзі і дзяцей. Акцыя прайшла пад лозунгам вызвалення палітвязняў. Скончылася ўсё ўсталяваннем новых крыжоў на месцы сталінскіх рэпрэсій, а таксама супольным спевам «Магутны Божа».

**ЗП**

## Прэзідэнтам Ірландыі стаў ірландскамоўны паэт



**Ён чвэрць стагоддзя быў дэпутатам, а таксама міністрам па справах культуры, мастацтва і гэльскай мовы.**

Дзявятым па ліку прэзідэнтам Ірландыі стаў прадстаўнік Лейбарысцкай партыі Майкл Хігінс. Паводле апублікаваных у вынікаў, на выбарах ён атрымаў 707 101 голас, або каля 40%.

Яго галоўны супернік, незалежны кандыдат Шон Галахер, які набраў 504 964 галасы, адмовіўся ад далейшай барацьбы, так што другі тур праводзіцца не будзе.

Вырашальную ролю ў перамозе Хігінса сыграла яго рэпутацыя ўмеранага і ўзважанага палітыка.

Прэзідэнт у Ірландыі з'яўляецца цырыманіяльнай фігурай і абіраецца на сем гадоў.

**ЛМ**

## Літва паставіла на Лукашэнку крыж

**Ажубаліс прапануе краінам ЕС працаваць над стварэннем стратэгіі адносінаў з Беларуссю без Лукашэнкі.**

Міністр замежных спраў Літвы Аўдронюс Ажубаліс бачыць у Беларусі «толькі перамены да горшага».

«Тое, што зараз адбываецца ў г. зв. новым заканадаўчым працэсе, дзе ўзмацняецца роля спецслужбаў і прэзідэнта, якому яны падсправаздачныя, сведчыць пра змяншэнне грамадзянскіх свабодаў», — падкрэсліў Ажубаліс.

Літва прапануе краінам Еўрасаюза працаваць над стварэннем стратэгіі адносінаў з Беларуссю без Аляксандра Лукашэнкі.

«Гэтая своечасова высунутая ідэя мае мэту паказаць і беларускаму грамадству, і эліце, што Еўропа не бачыць будучыні ў цяперашняга рэжыму ў Беларусі і ўжо рыхтуе новую палітыку адносінаў з новай беларускай уладай», — заявіў Ажубаліс.

Словы Ажубаліса могуць сведчыць пра з'яўленне новай стратэгіі краін Еўрасаюза ў дачыненні да Беларусі. Літва была адной з нямногіх краін ЕС, якая мела стасункі з афіцыйным Мінскам.

Даля Грыбаўскайце двойчы сустракалася з Аляксандрам Лукашэнкам. Прэзідэнтка Літвы крытыкавала апазіцыю, што яна не клапоціцца пра нацыянальныя каштоўнасці.

Ажубаліс — адзін з найбліжэйшых паплечнікаў Грыбаўскайце.

**ЗП**



**Лукашэнка прапаноўвае вярнуцца да «поўнафарматнага ўзаемадзеяння»**

Сам Аляксандр Лукашэнка на тым тыдні наведаў Душанбэ. Гэтым разам з ім не было малодшага сына, які часта ездзіць з кіраўніком краіны ў замежныя паездкі.

«Упэўнены, даўно прыйшоў час адмовіцца ад гэтых штучных бар'ераў, замшэлых стэрэатыпаў і расчысціць шлях для поўнафарматнага ўзаемадзеяння», — заявіў А. Лукашэнка, звяртаючыся да ЕС і ЗША. Пры гэтым ён заўважыў, што праблемы ва ўзаемадачыненнях узнікаюць не па віне беларускага боку.

# Колькі будуць каштаваць прадукты, каб быць «як у Расіі»?

Чакайма вараную **каўбасу за 70 тысяч**.

Беларускія чыноўнікі абяцаюць падняць цэны да ўзроўню расійскіх вось ужо паўгода, ад пачатку эканамічнага крызісу ў краіне. «Цэны будуць імкнуцца да ўзроўню цэнаў на вонкавым перыметры, і перадусім да іх узроўню ў Расіі», — папярэджваў віцэ-прэм'ер Сяргей Румас.

«Калі мы ідзём у Адзіную эканамічную прастору, без мытных межаў, дыспарытэту цэнаў апрыёры не можа быць. Ён можа быць у межах транспартнага складніку, каб не было сэнсу вывозіць», — паўтараў услед за ім дырэктар дэпартамента цэнавай палітыкі Міністэрства эканомікі Ігар Фамін.

Працэс ідзе, хоць і не надта хутка. Зараз, пасля ўвядзення ў краіне адзінага валютнага курса, самы час прыцаніцца да расійскіх тавараў. Што з іх будзе не па кішэні шараговаму беларусу?

«Наша Ніва» перапісала лічбы з цэннікаў у звычайнай сеткавай прадуктовай краме Масквы. Тавары шукаліся перадусім мясцовыя — напрыклад, хлеб з маслам, таму што кошт імпартаваных у Беларусь бананаў будзе мала залежаць ад цэнаў у Расіі.

А вось малако, наадварот, цалкам можа стаць «уніфікаваным».

Нагадаем, што курс расійскага рубля складае прыкладна 281 беларускі рубль. У дадатак, па рэкамендацыі Нацбанка Беларусі, мы акругляlі цэны да 50 ці 100 рублёў.

| Прадукт | Цана ў Расіі (у рас. і бел. рублях) | Цана ў Беларусі | Розніца ў цане |
|---|---|---|---|
| Хлеб, 1 кг | 30 (8450) | 4900 | на 58% |
| Бульба, 1 кг | 33 (9250) | 2000 | у 4,7 разу |
| Малако, 1 л (2,5%) | 28 (7850) | 4000 | у 2 разы |
| Кефір, 0,9 л (3,2%) | 42 (11 800) | 4000 | у 3 разы |
| Каўбаса вараная, 1 кг | 252 (70 800) | 25000 | у 2,8 разу |
| Каўбаса сыравэнджаная, 1 кг | 550 (154 500) | 78000 | у 2 разы |
| Яйкі (С-1), 10 штук | 37 (10 400) | 12100 | парытэт |
| Макарона, 400 г | 18 (5 050) | 4200 | парытэт |
| Грэчка, 900 г | 65 (18 250) | 18000 | парытэт |
| Сок яблычны, 1 л | 48 (13 500) | 6200 | у 2,1 разу |




Як вынікае з табліцы, у Беларусі даражэйшыя толькі яйкі. Розніца ў цане складае ўсяго каля 15%, што можна смела назваць парытэтнымі цэнамі. Тая ж сітуацыя з макаронай і грэчкай, за якія беларусы і расіяне плацяць амаль аднолькава.

Самая ж моцная розніца ў кошце на бульбу — ажно ў пяць разоў! А вось мясныя і малочныя прадукты нанясуць прыкладна аднолькавы ўдар па кашальку беларусаў. Пасля «ўз'яднання цэнаў» з Расіяй за іх давядзецца плаціць у 2—3 разы больш. Але ці вытрымае гэта сямейны бюджэт?

**Ягор Марціновіч**

# Транспартны капіталізм

Гарадскія аўтобусы падаражэлі на 37%, а прыгарадныя — аж на 80%.

Нягледзячы на ўяўны супраціў з боку Міністэрства эканомікі, транспартнікі ўсё ж павялічылі тарыфы на праезд. Мінгарвыканкам і «Сталічны транспарт і сувязь» некалькі дзён патрабавалі, каб ім дазволілі рэзка падняць цану талончыкаў. І яны дабіліся свайго.

Тым не менш, капіталізм перамог. З першага лістапада праезд у грамадскім транспарце Мінска каштуе 1300 рублёў. Яшчэ паўгода таму ён быў удвая таннейшым. Перад прэзідэнцкімі выбарамі за сярэдні заробак можна было набыць 2660 талонаў, а цяпер — усяго 1739.

У канцы года Мінгарвыканкам мяркуе ўзняць кошт праезду да 1850 рублёў, каб падняць акупляльнасць паездак вышэй за цяперашнія 45%. Вось толькі транспартнікі не ўлічваюць беларускую інфляцыйную спіраль — чарговае падаражэнне паліва выклікае чарговае зніжэнне акупляльнасці транспарту. Давядзецца зноў павышаць тарыфы.

У той жа час падаражэў і праезд у прыгарадных аўтобусах. Тарыфы выраслі ажно на 80%! Цяпер 1 км у хуткасным аўтобусе каштуе 286 рублёў, у аўтобусе з мяккімі крэсламі — 296 рублёў.

Рэвалюцыйнай выглядае сітуацыя з маршрутнымі таксі. Кіроўцам дазволілі выстаўляць адвольныя тарыфы, але каб іх рэнтабельнасць не перавысіла 15%. У першы ж дзень некаторыя маршрутачнікі выставілі тарыф 4500 рублёў за паездку, аднак большасць іншых кіроўцаў вырашылі перачакаць сітуацыю і па-ранейшаму просяць 3300 рублёў. Дарэчы, «Мінсктранс» у сваіх мікрааўтобусаў выставіў цану 4000 рублёў.

**ЯМ**

| | Сярэдняя зарплата | Кошт талона | Талоны на заробак |
|---|---|---|---|
| Снежань 2010 | 1 595 873 | 600 | 2660 |
| Кастрычнік 2011 | 2 260 112* | 1300 | 1739 |

*апошнія статыстычныя дадзеныя

# Стаўкі па валютных дэпазітах падаюць

А па рублёвых усё яшчэ растуць.

Беларускія банкі пачынаюць ставіцца да валютных дэпазітаў усё з большай насцярогай. Цяпер самая высокая стаўка складае ўсяго 10—10,5%, прычым дамова часцей за ўсё забараняе загадзя забраць грошы і прадугледжвае плаваючую стаўку. Гэта значыць, банк можа зменшыць прыбытковасць уклада ў аднабаковым рэжыме. Яшчэ некалькі месяцаў таму даляры ці еўра можна было пакласці і пад 11%.

А вось стаўкі рублёвых дэпазітаў усё яшчэ растуць. Найбольшая прапанова зараз складае 57%, а з фіксаванай стаўкай — 51%. І ўсё адно, пакуль інфляцыя звышвысокая, рублёвыя дэпазіты ўсё яшчэ не надта выгадныя. Але можна паверыць віцэ-прэм'еру Сяргею Румасу і Нацбанку, якія абяцаюць, што ў наступным годзе інфляцыя будзе не вышэйшай за 19%. Калі іх прагноз збудзецца, рублёвыя дэпазіты з цяперашняй стаўкай будуць выгаднейшымі за валютныя.

**ЯМ**

**Валютныя дэпазіты:**
«Дэльтабанк» — 10,5%,
«Беларусбанк» — 8%

**Рублёвыя дэпазіты:**
«Белросбанк» — 57%,
«Беларусбанк» — 43%

# Гарэлка даражэе да 20 тысяч рублёў

Акцызы на цыгарэты, алкаголь і дызель павялічыліся, каб **дагнаць Расію**.

З 1 лістапада ў Беларусі ўступілі ў сілу новыя акцызы — на алкаголь, цыгарэты і дызельнае паліва. Яны будуць уніфікаваныя з тымі, што цяпер існуюць у Мытным саюзе. Згодна з указам кіраўніка дзяржавы, акцыз на алкагольную прадукцыю павялічваецца на траціну. Гэта прывядзе да таго, што гарэлка, напрыклад, падаражэе на 20%, з 17 да 20 тысяч рублёў за бутэльку.

На цыгарэты і дызельнае паліва застаюцца фіксаваныя кошты, таму павелічэння акцызу спачатку ляжа на плечы прадпрыемстваў-вытворцаў.

**ЯМ**




PHOTO BYMEDIA.NET

# Еўропа прабачыла грэкам 50% доўгу

…і еўрапейская валюта зноў **пайшла ўгару**.

Крызіс у еўразоне чарговы раз адкладаецца. Кіраўнікі вырашылі зрабіць Грэцыі яшчэ адну зніжку. Краіне прабачаць прыкладна 170—180 мільярдаў еўра. Прычым гэта не толькі пазыкі ў іншых дзяржаў, але і ў прыватнікаў. Апроч таго, грэкі атрымаюць яшчэ каля 100 мільярдаў дапамогі ад Еўрасаюза і Міжнароднага валютнага фонду.

Рашэнне выглядае лагічным — калі пакінуць Грэцыю сам-насам з праблемамі, крэдыторы маглі не атрымаць увогуле нічога. Тады па прынцыпе даміно пачалі б банкрутаваць банкі-крэдыторы. Ад гэтага пачаў бы згортвацца бізнэс, трацілі б укладчыкі.

Вось толькі самі грэкі да жорсткай эканоміі не гатовыя і па-ранейшаму будуць чакаць чарговай дапамогі ад Еўропы.

Тым не менш, новы план прывёў да рэзкага росту еўрапейскай валюты, якая перавысіла $1,4. Яшчэ некалькі тыдняў таму за адзін еўра давалі $1,32.

**ЯМ**

## Сцісла

**Пенсіянеры — мільянеры**

Сярэдняя пенсія ў лістападзе дасягне 978 тысяч рублёў. Гэта адбудзецца праз перараздік — з 1 лістапада выплаты павялічыліся на 22%.

**Тапузідзіс дабраўся да Віцебска**

У гэтым горадзе адбылося адкрыццё гіпермаркета «Карона», першай крамы такога кшталту ў рэгіёне. «Карона» — брэнд кампаніі «Тытунь-Інвест», якая належыць набліжанаму да Лукашэнкі алігарху Паўлу Тапузідзісу. Ён валодае крамамі ў Мінску, Брэсце, Бабруйску.

**«Белгазпрамбанк» спыніў крэдытаванне фізічных асобаў**

Крэдытаванне прыпынена на нявызначаны тэрмін.

**Камандзіровачныя выраслі ўдвая**

Цяпер сутачныя будуць складаць 44 тысячы рублёў на дзень. Калі ж камандзіроўка складаецца з аднаго дня, то работніку заплацяць 22 тысячы рублёў. А вось на найм жылля даюць усяго 13 тысяч рублёў.

**Юрый Чыж выкупіў гіпермаркеты «Прастор»**

Мільянер выкупіў 51% акцый кампаніі «Прастормаркет» у свайго расійскага партнёра, групы «Сёмы кантынент».

**ЯМ**

# Восем пытанняў да новага генпракурора

**Жыхары Віцебска працягваюць патрабаваць пакарання для следчых, што сілай змушалі падлеткаў агаварыць сябе.**

«Пасля перапіскі з пракуратурай склалася ўражанне, што нас лічаць людзьмі другога гатунку. Цяпер мы адчуваем, што нас зусім за людзей не лічаць», — з такімі словамі ў «НН» звярнуўся Хачатур Хачатуран з Віцебска.

У лютым 2011 Вярхоўны Суд пакінуў без зменаў апраўдальны прысуд Магілёўскага абласнога суда ў дачыненні да яго сына Аляксандра Логінава і Аляксандра Напаюка, якіх вінавацілі ў забойстве 31-гадовага беспрацоўнага Д. Сідарава (падрабязней пра гэта чытайце ў №9 «НН» за 9 сакавіка 2011). У судзе былі даказаныя факты фальсіфікацыі справы супрацоўнікамі віцебскай міліцыі, а таксама аказання ціску на падазраваных у часе папярэдняга следства. У маі па фактах прымянення незаконных метадаў дазнання супрацоўнікамі Першамайскага РАУС Віцебска была распачатая крымінальная справа.

З моманту вызвалення падлеткаў іх бацькі, а таксама паўсотні жыхароў Віцебска напісалі каля 150 лістоў у Генпракуратуру і Адміністрацыю Лукашэнкі з патрабаваннем справядлівага пакарання для следчых. «І атрымалі адны адпіскі. Дайшло да таго, што намеснік генпракурора Конан у сваіх адказах піша з памылкамі прозвішча следчага — аднаго з галоўных фігурантаў справы», — кажа Хачатуран.

Ён мяркуе, што галоўнай праблемай з'яўляецца кругавая парука ў праваахоўных органах. Тым не менш, ускладае надзеі на новапрызначанага генпракурора Аляксандра Канюка. Яму падпісанты адрасавалі восем пытанняў па справе, адказы на якія беспаспяхова спрабавалі атрымаць ад яго папярэдніка Рыгора Васілевіча. «НН» публікуе іх таксама.

**1.** На якой падставе з найгрубейшымі парушэннямі заканадаўства былі затрыманыя ў чэрвені 2009 і ўтрымліваліся пад следствам больш за год непаўналетнія?

Падпісанты нагадваюць, што галоўная сведка абвінавачвання А. Сулімава пачала даваць паказанні пасля затрымання за крадзеж. Пры гэтым в.а. начальніка Першамайскага РАУС хадайнічаў, каб суд улічыў яе статус асноўнага сведкі ў справе аб забойстве.

**2.** Як патлумачыць сталую падтасоўку часу смерці Сідарава? У пастановах ад ліпеня 2009 да красавіка 2010 меркаваны час забойства «ссунуўся» з «прыблізна ў 13 гадзін» да «паміж 15 і 17 гадзінамі».



Ад Васілевіча адказаў не дачакаліся, цяпер чакаюць ад Канюка.

**З адказу намесніка генпракурора А. Шведа ад 05.10.2011**

«…Ваш зварот далучаны да матэрыялаў крымінальнай справы для праверкі выкладзеных фактаў следчым шляхам. Юрыдычная ацэнка дзеянняў службовых асоб праваахоўных органаў будзе дадзена ў рамках расследавання дадзенай крымінальнай справы, пра што Вам паведаміць следчы, які праводзіць расследаванне».

Падпісанты мяркуюць, што віцебскія следчыя дабіліся ад мясцовых экспертаў «зручнага» для іх часавага інтэрвалу. Аднак паўторная экспертыза, праведзеная ў Мінску, разбурыла гэтыя планы.

**3.** На якой падставе дзеці трапілі на стацыянарнае абследаванне ў «Навінкі»?

Да затрымання А. Логінаў не знаходзіўся над наглядам ні ў наркалагічным, ні ў псіхіятрычным дыспансерах. У «Навінках» ён правёў амаль месяц без асабістай справы і накіравання з Віцебскага псіханеўралагічнага дыспансера.

**4.** Чаму на працягу ўсяго следства бацькам не далі ніводнага спаткання з непаўналетнімі дзецьмі?

**5.** На якой падставе ў камеры да непаўналетніх падсялялі асуджаных за забойствы дарослых, рэцыдывістаў, якія пасля на судзе сведчылі супраць падлеткаў?

**6.** Як можна патлумачыць дзеянні следчых Ю. Шчацько і А. Таўтына, якія дабіваліся ад сведак дачы непраўдзівых паказанняў, мэта якіх — даказаць віну невінаватых?

Падпісанты нагадваюць, што ў часе суда шэраг сведак адмовіліся ад папярэдніх паказанняў.

**7.** Якім чынам у крымінальнай справе ў раздрукоўцы размоваў па хатнім тэлефоне А. Логінава былі вынятыя два тэлефонныя злучэнні?

Менавіта яны, як стала вядома ў судзе, забяспечылі абвінавачанаму алібі.

**8.** Чаму следчы Шчацько пасля пераводу падазраваных у СІЗА Мінска за першыя тры месяцы следства толькі па адным разе дапытаў іх?

**Сямён Печанко**

# Колькі каштуе прышчэпка ад грыпу?

**Зрабіць яе можна ў любой паліклініцы як бясплатна, так і за грошы.**



У паліклініках Мінска прышчэпкі расійскай і кітайскай вытворчасці робяць бясплатна ўсім жадаючым (калі вы прыпісаны да дадзенай установы). Для арганізацый кошт расійскай прышчэпкі складае каля 30 тысяч рублёў.

Калі вы не маеце мінскай прапіскі (рэгістрацыі), то ўсё роўна можаце прыпісацца да паліклінікі па месцы жыхарства і прышчапіцца бясплатна.

А вось за прышэпкі вытворчасці Францыі («Ваксігрып») ці Нідэрландаў («Інфлювак») давядзецца плаціць ад 60 да 75 тыс. (цэны ва ўсіх паліклініках розныя).

Цікава, што ў асобных паліклініках (у прыватнасці, у Магілёве, Бабруйску), у адрозненне ад сталіцы, бясплатна імунізуюцца прэпаратамі расійскай і кітайскай вытворчасці толькі пэўныя катэгорыі людзей.

Сюды ўваходзяць дзеці да 18 гадоў, супрацоўнікі ўстаноў аховы здароўя, адукацыі, тыя, у каго ў сям'і ёсць дзеці да 6 месяцаў, і некаторыя іншыя.

Астатнія катэгорыі насельніцтва могуць прышчапіцца за кошт уласных сродкаў: каля 30 тысяч — расійскай прышчэпкай, 60—70 тысяч — французскай, нямецкай ці галандскай.

Расцэнкі платных медыцынскіх цэнтраў вагаюцца ад 80 да 102 тысяч рублёў. Некаторыя з іх прапануюць зніжкі сем'ям (калі вакцынацыю робяць ад 3-х чалавек) і арганізацыям. У кошт уваходзіць прыём у тэрапеўта. Калі ж выявіцца, што прышчэпкі вам супрацьпаказаныя, то вы заплаціце толькі за прыём урача (каля 70 тыс.).

**Аксана Рудовіч**

**Кошты па прышчэпкі ад грыпу**

| Установа | Вытворца вакцыны | | |
|---|---|---|---|
| | Расія, Кітай | Францыя («Ваксігрып») | Нідэрланды («Інфлювак») |
| Паліклінікі ў Мінску | бясплатна* | ад 60 тыс. | ад 75 тыс. |
| Паліклінікі ў інш.гарадах | 30 тыс./бясплатна** | ад 60 тыс. | ад 75 тыс. |
| Экамедсэрвіс | - | 82/76 тыс.*** | 95/90 тыс. |
| ЛАДЭ | - | 88 тыс. | 102 тыс. |
| Нардзін | - | 90 тыс. | - |

* калі вы прыпісаны да дадзенай паліклінікі; ** бясплатна — пэўным групам насельніцтва; *** зніжкі ад колькасці

# Як удасканаліць мінскае метро

**Метро будзе каштаваць даражэй, чым наземны траспарт.**

Мінгарвыканкам плануе зрабіць праезд у метро даражэйшым, чым у наземных відах транспарту. Чыноўнікаў не спыняе нават адмова Мінэканомікі, якое завярнула іх прапановы.

Каб павышэнне цэнаў не было гульнёй у адны вароты, выкажам некалькі прапановаў па ўдасканальванні працы метрапалітэна.

**Праязныя дакументы.** У мінскім метро іх усяго тры віды: на месяц, паўмесяца і на дэкаду. Іх дзеянне строга прывязана да календара. А чаму б не зрабіць, як у Польшчы — праязны на 1 дзень, на 3, на 12 і г.д.? Чым большы тэрмін дзеяння праязнога — тым ён таннейшы. І каб ён пачынаў дзейнічаць з моманту пагашэння.

**Турнікеты.** Даўно пара змяніць праслаўленыя яшчэ ў савецкім мультфільме «Ну, пачакай!» пагрозлівыя прыстасаванні на больш гуманныя і сучасныя. Надакучыла ўвесь час рыхтавацца да ўдару па каленях на выхадзе з метро ў раёне чыгуначнага вакзала. За прыклад можна ўзяць Кіеў, дзе на многіх станцыях ужо дзейнічаюць бяспечныя турнікеты.

**Эскалатары на Кастрычніцкай.** Рэканструяваная ў 2008-м станцыя займела на выхадзе на перасадачны вузел чатыры эскалатары замест трох. Тады казалі, што гэта павінна вырашыць праблему велізарных чэргаў каля эскалатараў. Але, падаецца, натоўпы нікуды не зніклі.

Так, праца эскалатараў падпарадкоўваецца строгаму графіку, але ці лягчэй ад таго пасажырам? Стаянне ў натоўпе ў падземцы само па сабе малапрыемнае, а пасля падзей 11 красавіка адключаны «не ў гадзіну пік» эскалатар выглядае здзекам.

**СП**



MIK-KEY.LIVEJOURNAL.COM

Новыя турнікеты ў кіеўскім метро.

# «Выходзім, каб выратаваць жыцці палітвязням»

Ад 24 кастрычніка на Кастрычніцкай плошчы праходзяць штодзённыя **акцыі ў падтрымку** палітвязняў.

Іх ладзяць хлопцы і дзяўчаты з «Еўрапейскай Беларусі». Мерапрыемствы не вельмі шматлікія, але міліцыя ўсё адно перагароджвае плошчу, а юнакоў затрымлівае. Адзін з каардынатараў кампаніі, Павел Юхневіч, адказаў на пытанні «НН».

**«Наша Ніва»: Чаму да штодзённых акцый не далучыліся іншыя палітычныя сілы?**

**Павел Юхневіч:** Калі мы выходзім з агульнай праблемай, астатнія маглі б далучыцца. Акцыі робяцца для таго, каб выратаваць жыцці палітвязням. Праўда, мала хто рызыкнуў выйсці на Кастрычніцкую плошчу. Але гэта пытанне не да нас, а да тых, хто не выйшаў.

**«НН»: Мы былі сведкамі сёлетніх даволі масавых «Стопбензін», маўклівых серадаў. Мо арганізатары акцый салідарнасці не дапрацавалі?**

**ПЮ:** Так, мы не распаўсюдзілі дзясяткі тысяч улётак. На той момант у нас не было такой магчымасці — рашэнне трэба было прымаць хутка. Можна было б месяц рыхтавацца, але гэта не тыя ўмовы. Безумоўна, гэта вялікая цана — адміністрацыйныя арышты для затрыманых. Але гэта нішто ў параўнанні з тым, што церпяць палітвязні.

**«НН»: Далей акцыі будуць праводзіцца?**

**ПЮ:** Будуць, але ў крыху іншым фармаце, дзеля таго, каб неяк абмежаваць рэпрэсіі. І гэта будзе працягвацца да таго часу, пакуль палітвязні не будуць вызвалены.

**Сяргей Макарэвіч**



СЯРГЕЙ ГУДЗІЛІН
Максім Вінярскі быў асуджаны на 10 сутак арышту.

**Парфянкоў не ведае, ці вернецца дахаты**

«Розніца ў тым, з чым ты выходзіш і чым гатовы ахвяраваць. Калі ты выходзіш за бензін, важна, каб удзельнікаў было чым болей. Калі ты пляскаеш у ладкі супраць застою, таксама важныя лічба і карцінка. А калі ты выходзіш за каштоўнасці, за свабоду для палітычных вязняў, дык, як казаў Караткевіч, не трэба двух, каб пачаць. Твой выхад адбываецца не ў соцыуме, не ў палітыцы, а ў антрапасферы. Ён ужо з таго шэрагу, што самаспаленне Ромаса Каланты ў Літве, Яна Палаха ў Чэхіі ці таго «дзівака», з самаспалення якога пачалася рэвалюцыя ў Тунісе. Наш Парфянкоў выходзіць, ніколі не ведаючы, ці вернецца ён дахаты. Ягоны выхад вельмі высока матываваны, бо ён каштоўнасны. Таму на аднаго Парфянкова ўсё адно будзе сорак журналістаў і два палкі амона».

**Сяргей Дубавец, радыё «Свабода»**


СЯРГЕЙ ГУДЗІЛІН

## Вінаградаў: У турме стаў мацнейшым

«Адпраўляюся ў **вясельнае падарожжа**», — кажа былы палітвязень.

**«НН»: За кратамі Вы распісаліся са сваёй дзяўчынай. Не плануеце сапраўднае вяселле?**

**ПВ:** Я мо і хацеў бы, але, па шчырасці, грошай няшмат. У мяне цяпер галоўнае — з'ездзіць у рамантычнае падарожжа з жонкай. Што я і збіраюся здзейсніць у лістападзе.

**«НН»: Калі Вы прыехалі з калоніі, былі даволі бадзёрым, вясёлым. Турма — не такое і страшнае месца?**

**ПВ:** Гледзячы як успрымаць. Трэба выкарыстоўваць гэты час для таго, каб сябе ўдасканаліць, падумаць і праверыць сябе. Я пераканаўся, хаця і да гэтага быў не слабы духам чалавек, што стаў яшчэ мацнейшым. Там, безумоўна, страшна і дрэнна, але людзі могуць жыць усюды.

**«НН»: Алесю Кіркевічу за кратамі прапанавалі выехаць за мяжу. Да Вас з чымсьці падобным звярталіся?**

**ПВ:** Не. Мне прапаноўвалі толькі ў пачатку следства сказаць пэўныя рэчы пра сябе і пра экс-кандыдатаў у прэзідэнты на камеру, каб пасля паказаць на БТ. Маўляў, раскайваюся, быў дурнем, гэта кандыдаты мяне прымусілі. Мне толькі адзін раз прапанавалі і памілаванне падпісаць — ведалі, што я ўсё роўна адмоўлюся. А для справаздачы перад начальствам трэба было прапанаваць.

**«НН»: Чым займаецеся на свабодзе: у палітыку вярнуліся?**

**ПВ:** Так. У дадзены момант я знаходжуся на офісе грамадзянскай кампаніі «Гавары праўду»: вырашаем пытанні, звязаныя з працай кампаніі.

**«НН»: Вулічныя акцыі цяпер варта праводзіць? Гучаць прапановы ўвесці мараторый.**

**ПВ:** Лічу, што акцыі карысныя заўжды. Але лепш сур'ёзней падрыхтаваць акцыю, падумаць над яе фарматам, як мінімалізаваць магчымасць затрымання, і толькі пасля яе праводзіць.

**СМ**

**Павел Вінаградаў**

Нарадзіўся ў 1988 у Мінску. Фігурант «справы чатырнаццаці» за ўдзел у акцыі пратэсту прадпрымальнікаў. Быў асуджаны на два гады абмежавання свабоды без накіравання ў папраўчую ўстанову. На выбарах 2010 працаваў у штабе Уладзіміра Някляева. Асуджаны па артыкуле «Масавыя беспарадкі» на 4 гады калоніі ўзмоцненага рэжыму. Памілаваны А.Лукашэнкам 14 верасня.

## Крымінальная справа на Малчанава і Нікалаеўскага

У Барысаве **апаганілі чырвона-зялёныя сцягі**.

26 кастрычніка ў цэнтры Барысава фарбай былі залітыя дзяржаўныя сцягі. Аляксандра Малчанава затрымалі на наступны дзень. Калі малады чалавек ставіў свой аўтамабіль, дарогу яму перакрылі міліцыянты на трох машынах. Патлумачылі, што, па іх інфармацыі, Аляксандр мае недазволеную сімволіку.

У Малчанавых правяліператрус, падчас якога забралі камп'ютар. Пасля Аляксандра адвезлі ў пастарунак. Яго абвінавацілі ў непадпарадкаванні супрацоўнікам міліцыі і асудзілі на дзесяць сутак



адміністрацыйнага арышту. Пасля, як даведаліся праваабаронцы, на былога палітвязня завялі крымінальную справу. У Малчанавых правялі паўторныператрус: забралі паштоўкі салідарнасці, якія палітвязень атрымліваў у калоніі.

Дваператрусы прайшлі і на кватэры сябра Малчанава Андрэя Нікалаеўскага. У яго быў канфіскаваны пнеўматычны пісталет, на які не патрабуецца дазвол.

Аляксандр Малчанаў за ўдзел у падзеях 19 снежня 2010 года быў асуджаны на 3 гады пазбаўлення волі ў калоніі ўзмоцненага рэжыму. 14 верасня вызвалены, згодна з указам Лукашэнкі аб памілаванні.

Артыкул 370 КК РБ прадугледжвае пакаранне ў выглядзе грамадскіх работ, ці штрафу, ці папраўчых работ тэрмінам да двух гадоў, ці арышту тэрмінам да трох месяцаў, ці абмежаваннем волі тэрмінам да года.

**Кастусь Матушыч**

## Статкевіча на паўгода пазбавілі спатканняў

І **перашкаджаюць ажаніцца**.

30 кастрычніка кандыдат у прэзідэнты тэлефанаваў дачцэ Кацярыне. Статкевіч кажа, што яго спрабуюць прымусіць падпісаць прашэнне аб памілаванні.

«Апошні раз прапаноўвалі падпісаць у пятніцу, пасля адмовы сказалі, што пазбаўляюць спатканняў на бліжэйшыя паўгода, — адзначыла яна. — Сказаў, што з ім можа адбыцца ўсё, што заўгодна, але прашэнне аб памілаванні ён не будзе падпісваць ні ў якім разе, бо гэта было б здрадай у адносінах да тых людзей, якія выйшлі на плошчу 19 снежня».

Статкевіч паведамляе, што з рукой, якую ён пашкодзіў, ужо крыху лепш, але не зажыла, бо нагрузка на яе вялікая: прымушаюць пілаваць вельмі тоўстыя бярвенні. Палітвязень расказаў дачцэ, што яму не даюць распісацца з Марынай Адамовіч. Ужо некалькі разоў падаваліся заявы ў адміністрацыю калоніі. Начальнік павінен заверыць дакумент, каб спн. Адамовіч пасля магла перадаць заяву ў ЗАГС. Заяву некалькі разоў вярталі Статкевічу пад рознымі падставамі. А пасля яна і ўвогуле знікла.

**СМ, КМ**



# Выліты Лукашэнка

Адміністрацыя прэзідэнта Расіі замовіла **алавяную статуэтку Лукашэнкі**.

Студыя «Русскій Вітязь» (Масква) займаецца вырабам алавяных фігурак. Прычым не толькі салдацікаў, але і палітыкаў. У тым ліку — жывых. Нядаўна ў каталогу студыі з'явілася фігурка Лукашэнкі.

Беларускі кіраўнік выкананы ў маштабе 1:6 (вышыня 300 мм). Пазначана, што кіраўнік Беларусі адліты ў адзіным экзэмпляры на замову Адміністрацыі прэзідэнта Расіі.

Для таго самага замоўцы, сведчыць каталог, былі зробленыя фігуркі стойкіх алавяных Януковіча, Пуціна, Мядзведзева, Назарбаева, Бердымухамедава, Чавеса і нават кіраўніка «Газпрома» Мілера і старшыні ФСБ Мікалая Патрушава.

Для фігуркі Лукашэнкі абраная статычная пастава. Рукі шчэпленыя перад сабой. На запясці бачны гадзіннік Patek Philippe. Кантраст кідаецца ў вочы ў параўнанні з дынамічным алавяным Януковічам, які шырока крочыць, ці з Назарбаевым, які вітае народ.

«НН» паразмаўляла з дырэктарам студыі Андрэем Арсеньевым.

**«Наша Ніва»: Колькі каштуе замовіць сабе алавянага палітыка?**

**Андрэй Арсеньеў:** Гэта дорага. Некалькі тысяч еўра. Цэны адрозніваюцца па розных крытэрах. Аднак гэта праца эксклюзіўная, а значыцца вельмі нятанная.

**«НН»: Хто з палітыкаў выявіўся «самым цяжкім»?**

**АА:** Усе сучасныя палітыкі вельмі складаныя. Нашмат прасцей з ужо памерлымі таварышамі — вакол іх існуе пэўны стэрэатып, пэўнае ўяўленне, якім той ці іншы палітык быў. А пры стварэнні скульптуры сучаснага палітычнага дзеяча трэба адлавіць шмат момантаў.

**«НН»: Ці здаралася, што заказчык быў незадаволены вынікам?**

**АА:** Так. Вось, напрыклад, замоўцы адмовіліся ад фігуркі Пуціна. Рэч у тым, што мы зрабілі Пуціна такога, якім ён быў гады тры таму, — хударлявым, з рэзкімі рысамі твару. А Пуцін жа набраў вагі. Нам давялося перарабляць скульптуру.

**«НН»: Як Вы лічыце, з якой мэтай людзі замаўляюць сабе фігуркі палітыкаў?**

**АА:** Ну, тут ёсць некалькі варыянтаў: гэта можа быць падарунак, і гэта можа быць калекцыя палітычных дзеячаў.

**Алесь Сабаленка**



Камертон Сяргея Ваганава

## З нагоды ўзнагароды

На мінулым тыдні Аляксандр Лукашэнка ўзнагародзіў рознымі ордэнамі кіраўнікоў дзвюх дзяржаўных газет. Галоўны кіраўнік галоўнай газеты атрымаў ордэн Айчыны 3-й ступені. Засталіся яшчэ дзве ступені, каб дасягнуць, па словах класіка, «степеней известных» і стаць нарэшце поўным кавалерам...

У мяне няма памкнення кпіць з узнагароджаных ці ў чарговы раз разважаць пра разбуральную ролю дзяржаўных СМІ ў нашым грамадстве. Але вось якая гісторыя згадалася мне з гэтай нагоды.

Адбылася яна паміж «Знамёнкай» і «Чырвонкай», як па прастаце называліся тады вядомыя маладзёжныя газеты. Набліжаўся юбілей «Чырвонкі», і ўсе чакалі, як то было прынята ў савецкія часы, асабліва ў брэжнеўскія, высокіх узнагарод. Вось тыдзень застаецца, вось тры дні, вось ужо заўтра... А ні ордэнаў, ні медалёў усё няма. І тады жартаўнікі са «Знамёнкі» падкінулі на тэлетайп калег сфабрыкаваную стужку пад грыфам «тэрмінова» з пералікам прозвішчаў, пасад і розных узнагарод — ад ордэна Леніна, калі не памыляюся, да медаля «За працоўную доблесць»... Прызналіся ў апошні момант, калі «ТАССоўка» ўжо была пастаўлена ў нумар, а на сталах чакала жыватворчая празрыстая вадкасць з «20-га», так называлі паміж сабой магазін праз вуліцу, тады, здаецца, Тыпаграфскую.

Сцвярджаю з абсалютнай упэўненасцю: каб не «20-ы», савецкая «агітацыя і прапаганда» скончылася б нашмат раней...

Але вось парадокс: «20-га» няма, а савецкая «агітацыя і прапаганда» з яе хлуслівымі ўзнагародамі жыве.

Я паглядзеў, за што павінен давацца ордэн Айчыны, за якія дасягненні і мужныя ўчынкі. І не знайшоў у пераліку падстаў нічога, што адпавядала б дзейнасці згаданага ўзнагароджанага, «накіраванай на падвышэнне дабрабыту людзей і ўмацаванне магутнасці краіны...».

### Каб не «20-ы» магазін, савецкая «агітацыя і прапаганда» скончылася б нашмат раней...

Які дабрабыт, якая магутнасць?!

Зрэшты на старонках «СБ» — і дабрабыт, і магутнасць. Праўда, толькі часткова за кошт прыхільнікаў. Астатняя мана — за кошт бюджэту, за дзяржаўны, за наш з вамі кошт. Вось вам і «выдатныя дасягненні»... Замацавалі б у статуце ці ўказе фармулёўку «за абслугоўванне інтарэсаў улады», было б, урэшце, праўдзіва. Але ж не — магутнасць і дабрабыт...

...Чытаю зараз лісты бацькі да маці часоў вайны. Вось што ён піша 28 лютага 1944 года: «Для таго, каб праўдзіва сказаць пра байца, трэба быць з ім, выпрабаваць усе цяжкасці і вопыт барацьбы».

Бацька быў на вайне журналістам, і яшчэ хлапчуком я не аднойчы пытаўся ў яго, за якія подзвігі баявыя ўзнагароды. Асабліва цікавіў мяне медаль «За адвагу». Нехта з дваровых сяброў, калі мы пахваляліся адзін перад адным бацькоўскімі ўзнагародамі, сказаў мне, што гэта ўсяго толькі салдацкі медаль. Бацька быў капітанам. І я вырашыў, што ён нічога не расказвае мне пра вайну і медаль, таму што яму сорамна за такую невялікую ўзнагароду. Мне таксама было сорамна перад сябрамі...

Напрыканцы 70-х мы апынуліся на высачэзным узгорку ў пушкінскім Міхайлаўскім. Унізе цякла Сораць, а ўдалечыні высіўся над ракой Вялікай мост.

«Бачыш мост? — спытаў бацька. — Ледзь не патануў пад ім... Камбат загінуў, і я аказаўся старэйшым па званні... Дзевятнаццаць танкавых атак...» — «За адвагу?»

Бацька прамаўчаў.

...Нядаўна я чуў разважанні аднаго паэта. Ён настойліва сцвярджаў, што толькі пакуты аб'ядноўваюць людзей — ад сем'яў да народаў і нацый. З ім спрачаліся: чаму толькі пакуты?

Між тым, ёсць адна бясспрэчная, пацверджаная ўсім вопытам чалавецтва, ісціна: нішто, як толькі хлусня, не разбурае дзяржавы і не раз'ядноўвае людзей — ад сем'яў да цэлых народаў і нацый...

## Аляксандр Глеб дэбютаваў за «Вольфсбург»

Ён **выйшаў у стартавым складзе** ў матчы футбольнага чэмпіянату Нямеччыны супраць берлінскай «Герты».

30-гадовы былы капітан зборнай Беларусі А.Глеб належыць «Барселоне», але замацавацца ў складзе каталонскага клуба не здолеў. Год правёў у арэндзе ў «Штутгарце», мінулы год — у «Бірмінгеме», дзе таксама паказаў даволі бляклую гульню.

У жніўні 2011 г. А.Глеб быў аддадзены ў арэнду «Вольфсбургу», які трэніруе Фелікс Магат, што падчас свайго трэнерства ў «Штутгарце» (2001—2004) зрабіў з беларуса зорку еўрапейскага футбола.

Глеб-старэйшы спачатку лячыўся, потым набіраў кандыцыі. Беларус правёў на полі 78 хвілін, але «Вольфсбург» прайграў 2:3.

**Алег Гардзіенка**



Фотафакт







**Калі ж заснавалі Валожын?**

На ўездзе і на выездзе з Валожына пазначаныя зусім розныя даты заснавання горада. Раённыя ўлады не могуць прыйсці да адзінага меркавання ў гэтым пытанні.

**Аксана Рудовіч**

## Дачка Арнэлы Муці раздзелася для Playboy

Дачка вядомай італьянскай актрысы вырашыла ў свае 37 гадоў зняцца ў фотасесіі для мужчынскага часопіса.

Хто б мог падумаць, што ў сэксапільнай Арнэлы Муці зможа з'явіцца канкурэнтка, якую акторка сама нарадзіла і выхавала.

Найк Рывелі ў свае 37 змагла ўсяго адной шчырай фотасесіяй засланіць вядомую маму.

**Сямён Цыбульскі**



# «Ліцвіны» і «Зубры»: амерыканскі футбол па-беларуску

У выходныя ў Мінску адбыўся **«Кубак Вітаўта»** па амерыканскім футболе.



Адзін за ўсіх і ўсе за аднаго.

СЯРГЕЙ ГУДЗІЛІН

У ім удзельнічала мясцовая каманда «Ліцвіны», а таксама госці з Масквы і Ніжняга Ноўгарада. Першых «Ліцвіны» перамаглі, а вось Ніжняму Ноўгараду прайгралі ўзнагароду.

Гутарка з галоўным трэнерам «Ліцвінаў» Аляксандрам Клімавым.

**«Наша Ніва»: Даўно ў амерыканскім футболе?**

**Аляксандр Клімаў:** Так. Яшчэ ў 1992 разам з бацькам пайшлі на стадыён, мне тады было дванаццаць гадоў. Адзін з першых матчаў быў «Мінскіх зуброў». Вельмі спадабалася, запісаўся ў дзіцячую каманду. Потым гуляў у асноўным складзе «зуброў», а летась прапанавалі ўзначаліць «Ліцвінаў».

**«НН»: Як увогуле гэты від спорту ўзнік у нашых шыротах?**

**АК:** Гэта яшчэ з канца 1980-х. Быў такі энтузіяст Іван Садоўскі. Ён і вырашыў папулярызаваць гэты спорт у Беларусі. Была створаная каманда «Мінскія цмокі», якая праз пару гадоў была перайменаваная ў «зуброў».

**«НН»: А з якіх відаў спорту да вас прыходзяць?**

**АК:** Ды з усіх. У нас жа ёсць і вялікія, і маленькія, і лоўкія, і цяжкія, хто ловіць мяч і хто бяжыць. Прымяненне можна знайсці для кожнага. Прыходзяць з цяжкай і лёгкай атлетыкі, барацьбы, бокса.

**«НН»: Спорт жорсткі? Шмат траўмаў атрымліваеце?**

**АК:** Хутчэй, мужчынскі. Траўмы адбываюцца ад кепскай фізічнай падрыхтоўкі. У мяне не было ні пераломаў, ні разрываў. Досвед і практыка дапамагаюць пазбегчы траўмаў.

**«НН»: Хто выступае за «Ліцвінаў»?**

**АК:** У асноўным студэнты, з вуліцы людзі прыходзяць. У нас раней толькі «зубры» былі, людзі сцякаліся да іх. Але, фактычна, у іх толькі адзін трэнер, таму спартоўцы займаліся самастойна. Па агульнай згодзе было вырашана, што ў нашу каманду сыдуць некаторыя хлопцы з «зуброў».

**«НН»: Часта трэніруецеся?**

**АК:** Разы тры-чатыры ў летні перыяд. Дзве гульнявыя трэніроўкі, а яшчэ дзве па фізічнай падрыхтоўцы, практыкаваннях.



У беларускім амерыканскім футболе сустракаюцца каларытныя персанажы.

СЯРГЕЙ ГУДЗІЛІН

« Гульня мужчынская, а не жорсткая

**Амерыканскі футбол**

Сумесь рэгбі і футбола. Камандная гульня з мячом. Мэта гульні — прасоўваць мяч у заліковую зону на баку суперніка, гэтым набіраючы пункты. Мяч можна несці ў руках, кідаць і перадаваць партнёрам. Пункты можна набіраць розным чынам: занесці мяч у ачковую зону, забіць мяч між штангамі варот (над перакладзінай). Амерыканскі футбол самастойным відам спорту стаў напрыканцы XIX ст. Самы папулярны від спорту ў ЗША. У Беларусі пачаў развівацца ў 1980-х. На сённяшні момант існуе дзве каманды: «Мінскія зубры» і «Ліцвіны».



У «Ліцвінах» шануюць не толькі сілу, але і веды. Трэнер па абароне Алег Каралевіч робіць камандзе заўвагі.

СЯРГЕЙ ГУДЗІЛІН

Зімой, відаць, будзем трэніравацца разы 2-3 на месяц. Але спадзяюся, што хлопцы не закінуць рыхтавацца самастойна.

**«НН»: Амерыканскі футбол у нас цалкам аматарскі? Грошы зарабіць не атрымліваецца?**

**АК:** Узровень развіцця віду спорту не такі вялікі, каб можна было зарабляць. Хаця некаторыя нашы хлопцы ездзяць выступаць за польскія клубы, я сам выступаў за Беласток.

**«НН»: У Беларусі праводзіцца чэмпіянат?**

**АК:** Пакуль не. Але ідзе праца па яго стварэнні. На сёння мы маем толькі дзве каманды: «Мінскіх зуброў» і «Ліцвінаў». Ёсць моладзь у Гродне, Наваполацку, дзіцячая школа ў Фаніпалі.

**«НН»: Дык а дзе тады набіраецеся гульнявой практыкі?**

**АК:** Нашы каманды гуляюць у чэмпіянаце Украіны. «Ліцвіны» сёлета саступілі ўсім, мы ж толькі першы год існуём, набіраемся вопыту. А вось «зубры» былі другімі. Там штогод бітва тытанаў — «Мінскія Зубры» супраць данецкага «Скіфа».

**«НН»: Часта амерыканскі футбол блытаюць з рэгбі. У чым розніца?**

**АК:** Падобныя толькі паляна і форма мяча, усё астатняе рознае. Мы гуляем у форме, у каркасах, у рэгбі такога няма. У рэгбі гульня ўвесь час у руху. У нас жа дадзены чатыры спробы толькі, каб занесці ці забіць мяч за лінію.





**«НН»: Адкуль назва такая — «Ліцвіны»?**

**АК:** Гэта ад старшыні федэрацыі Ігара Жукоўскага. Ён у кастрычніку загінуў, вяртаўся з Кіева на машыне, адбылася аварыя. Цудоўны чалавек, энтузіяст сваёй справы, браўся за вялікую справу. У яго быў заўсёды нейкі пазітыўны драйв, які не спыняўся. А ліцвіны — гэта наша гісторыя. Так наша нацыя называлася раней. Ігар цудоўна ведаў і любіў гісторыю. Кубак Вітаўта адсюль жа. Назвалі трафей у гонар чалавека, які праславіў нашу радзіму — Вялікае Княства Літоўскае.

**Гутарыў Зміцер Панкавец**

# У Мінску згвалцілі 9-гадовую школьніцу

Падазраваны ўжо **быў асуджаны** раней за згвалтаванне, але атрымаў за гэта «хімію».

Па падазрэнні ў згвалтаванні затрыманы 27-гадовы жыхар Вілейскага раёна.

Гэта здарылася 24 кастрычніка на аўтавакзале «Маскоўскі». Дзяўчынка вярталася са сталічнай школы да дому ў Мінскім раёне — на пероне чакала аўтобус. Каля 15 гадзін да яе падышоў мужчына. Ён загадаў ісці за ім.

Са слоў дзяўчынкі, яна ўспрыняла незнаёмца як міліцыянта, бо той прамовіў: «Прайдзёмце». Злачынец завёў малую ў мужчынскую прыбіральню. Там збіў яе і згвалціў. Знайшла дзяўчынку прыбіральшчыца, якая і выклікала міліцыю.

## Дзяўчынка ўспрыняла незнаёмца як міліцыянта, бо той прамовіў: «Прайдзёмце»

Следчым аддзелам пракуратуры Мінска ў дачыненні да затрыманага заведзена крымінальная справа па ч.3 арт. 166 КК (згвалтаванне загадзя малалетняй). Яму пагражае ад 8 да 15 гадоў пазбаўлення свабоды.

Як паведаміў карэспандэнту «НН» старшы памочнік пракурора Сяргей Балашоў, затрыманы сёлета ўжо быў асуджаны за згвалтаванне (ч.1 арт. 167 КК РБ). Суд прыгаварыў яго да абмежавання свабоды з накіраваннем у спецустанову («хімія»). Прычым накіраваны для адбыцця пакарання ён быў у Мінск.

Следства пакуль не абнародвае падрабязнасці злачынства. Не выдаецца таксама і тое, як мужчына здолеў правесці дзяўчынку ў платную прыбіральню. Не выключана, што касірка акурат у той момант адышла.

**Сяргей Макарэвіч**

**15 верасня 2011 суд** Ленінскага раёна Гродна асудзіў жыхара горада за згвалтаванне двухгадовай дзяўчынкі на 12 гадоў пазбаўлення волі. У снежні мінулага года сабутэльнік маці дзяўчынкі скарыстаўся момантам, калі тая адлучылася ў краму па алкаголь. На судзе мужчына вінаватым сябе не прызнаў. Заявіў, што ў адсутнасць маці быў у прыбіральні, а зайсці ў гэты момант у кватэру, па яго словах, мог хто заўгодна. Дзяўчынка перанесла некалькі аперацый і засталася жывой.



СЯРГЕЙ ГУДЗІЛІН

**Дзе была міліцыя?**
Жахлівы выпадак на Маскоўскім аўтавакзале выклікае шэраг пытанняў да сталічнай міліцыі. Як такое магло здарыцца пасярод белага дня на ахоўваемым аб’екце? Чаму ўдзельнікі мірных палітычных акцый і кроку не могуць зрабіць на загадзя заблакаваных сілавікамі плошчах, а асуджаныя за згвалтаванне бесперашкодна разгульваюць па вакзалах у пошуках новых ахвяраў?

Згвалтаванне адбылося ў прыбіральні вакзала «Маскоўскі».

# Дзевяноста мільёнаў за памілаванне

**Прадпрымальнік адкупіўся** ад крымінальнай справы.

27 кастрычніка спынена крымінальная справа ў адносінах да прадпрымальніка з Ліды, які ўхіляўся ад выплаты падаткаў. Па матэрыялах следства, у перыяд 2009—2010 ён прыняў да бухгалтарскага ўліку таварна-транспартныя накладныя, якія ўтрымлівалі несапраўдныя звесткі.

Накладныя на паступленне марскіх кантэйнераў, якія затым планаваліся перапрадаць, былі афармлены ад імя лжэпрадпрымальніцкіх структур. Нанесеная шкода ацэнена ў 93,9 мільёна. Прадпрымальнік прызнаў сябе вінаватым і выплаціў усю суму нанесенай шкоды. І звярнуўся ў адміністрацыю прэзідэнта з просьбай вызваліць яго ад крымінальнай адказнасці ў адпаведнасці з арт. 88 ч. 1 КК РБ (вызваленне ад крымінальнай адказнасці ў сувязі з дзейным раскаяннем). Просьбу задаволілі.

**КМ**

# Сямнаццаць мільярдаў і пяць дарагіх аўто

Фінансавая міліцыя Камітэта дзяржкантролю **раскрыла групу**, якая праводзіла незаконныя фінансавыя аперацыі.

Па версіі следства, махляры зараблялі на незаконных фінансавых аперацыях па пераводзе безнаяўных беларускіх рублёў у наяўную замежную валюту і наадварот. Яны аказвалі паслугі суб’ектам гаспадарання, якім патрабавалася ўвесці ў легальны абарот тавар, набыты за наяўны разлік, альбо вывесці з легальнага абароту рэалізаваную за наяўныя грошы прадукцыю. Для надання такім аперацыям законнасці выкарыстоўваліся фальшывыя бухгалтарскія дакументы. Затрымалі падазраваных на здымнай кватэры ў Мінску, якую яны абсталявалі пад офіс.

З кастрычніка 2009 па верасень 2011 злачынная група «зарабіла» больш чым на 17 млрд рублёў. Па інфармацыі КДК, накладзены арышт на пяць дарагіх аўто і на 140 млн рублёў на рахунках прадпрымальніцкіх структур. Трое ўдзельнікаў групы ўзяты пад варту. Заведзена крымінальная справа па ч.3 арт. 233 КК РБ (незаконная прадпрымальніцкая дзейнасць).

**КМ**

# Нецвярозы на ўседарожніку пабіў пяць аўто і матацыкл

І **папрасіў міліцыянтаў адпусціць** яго дамоў.

21 кастрычніка намеснік прэм’ер-міністра Анатоль Тозік заклікаў зрабіць больш жорсткім пакаранне за кіраванне аўто ў нецвярозым стане. Ён лічыць, што за гэта неабходна пажыццёва забіраць пасведчанне кіроўцы, а аўто канфіскоўваць у даход дзяржавы незалежна ад таго, каму яно належыць.

Ініцыятыва важная, улічваючы тое, што ў Беларусі па віне нецвярозых кіроўцаў штогод гіне да двухсот чалавек. Каб падкрэсліць важнасць тэмы, прывядзём пяць самых характэрных прыкладаў аварый з удзелам п’яных кіроўцаў, што здарыліся пасля заявы Тозіка.

21 кастрычніка ўвечары ў Мінску на вуліцы Ясеніна нецвярозы кіроўца на Lancia Kappa пратараніў аўто «хуткай» дапамогі, у якім везлі дзяўчынку-падлетка. «Хуткая» перакулілася, на шчасце, ніхто сур’ёзна не пацярпеў. Затым Lancia сутыкнулася з ЗІЛам. А канчаткова спынілася, урэзаўшыся ў дрэва. У крыві кіроўцы выявілі 3,9 праміле алкаголю, што ў 13 разоў перавышае максімальнu дапушчальную норму ў 0,3 праміле. У маі 2011 яго пазбавілі пасведчання за кіраванне ў нецвярозым стане.

22 кастрычніка ў Фрунзенскім раёне Мінска нецвярозы пенсіянер на BMW 5-Series уцякаў ад супрацоўнікаў ДАІ. Спыніў яго прыпаркаваны каля дарогі Renault Scenic. Пры затрыманні кіроўца аказаў супраціў. Алкатэстар паказаў 1,7 праміле.

23 кастрычніка п’яная паездка кіроўцы на Citroen Evasion па праспекце Жукава ў Мінску ледзь не скончылася трагедыяй. Пасля сутыкнення са спадарожным аўто Citroen праехаў праз раздзяляльную паласу і ўрэзаўся ў слуп у лічаных метрах ад прыпынку грамадскага транспарту, дзе ў той момант знаходзілася 6 чалавек. Паводле папярэдняй інфармацыі, кіроўца быў нецвярозы.

26 красавіка на праспекце Янкі Купалы ў Гродне нецвярозы кіроўца (2,25 праміле) на Audi пратараніў маршрутку, у якой знаходзілася пяць чалавек. Ніхто не пацярпеў.

30 кастрычніка ў Мінску ў дварах вуліцы Якубоўскага нецвярозы кіроўца на Hyundai Santa Fe пашкодзіў пяць легкавікоў і адзін матацыкл. Пры затрыманні ён папрабаваў уцячы, а потым папрасіў міліцыянтаў адпусціць яго дамоў, каб адаспацца. Алкатэстар нават на няпоўным выдыху паказаў больш за 2 праміле.

**Сямён Печанко**



## Сцісла

### Гарэў дызель-цягнік

26 кастрычніка на перагоне Брынёва—Старушкі цалкам згарэў 3-і вагон і быў часткова пашкоджаны 2-гі вагон дызель-цягніка Жыткавічы—Калінкавічы. Ва ўсім цягніку было ўсяго чатыры пасажыры, яны ехалі ў іншых вагонах і не пацярпелі. Папярэдняя прычына пажару — кароткае замыканне.

### Педагог прадаваў порах

2 гады зняволення з адтэрміноўкай пакарання атрымаў 51-гадовы педагог з Пінска. У чэрвені 2011 ён трапіўся міліцыянтам пры праверачнай закупцы каля 250 г пораху. Асуджаны меў станоўчую характарыстыку.

### У Гродне нядобразычліўцы спалілі два царкоўныя «Мерсэдэсы»

На тэрыторыі гродзенскага прыхода Храма Святой Вялебнай Марфы (могілкі на Антонава) уначы згарэлі два царкоўныя аўтамабілі. Вернікі кажуць, што невядомыя людзі разбілі шкло і закінулі ўсярэдзіну бутэлькі з запальнай сумессю. Паводле афіцыйнай папярэдняй версіі, машыны падпалілі. Здарылася гэта ў ноч на 14 кастрычніка.

**СП**

# Шляхетнае шоу на Дзень Рэфармацыі

**Баль у Радзівіла** як альтэрнатыва Хэлоўіну.

Дзень Рэфармацыі пратэстанты Еўропы святкуюць 31 кастрычніка, у гонар падзей 1517 года, калі Марцін Лютэр прыбіў свае 95 тэзісаў да варотаў царквы ў Вітэнбергу. Гэтая падзея лічыцца афіцыйным пачаткам Рэфармацыі — рэлігійнага і грамадскага руху, які перавярнуў мысленне еўрапейцаў.

Рэфармацыя ў Вялікім Княстве Літоўскім найперш асацыюецца з імёнамі Скарыны, Біблія якога прасякнутая пратэстанцкім духам; Мікалая Радзівіла Чорнага, рэалізатара вялікай зямельнай рэформы 1557-га, якая дала штуршок гаспадарцы. Час Рэфармацыі, XVI стагоддзе, называюць «залатым векам» беларускай культуры.

У гонар Дня Рэфармацыі ў Мінску 31 кастрычніка адбыўся «Баль у Радзівіла» — тэатралізаваны канцэрт з удзелам гуртоў «Стары Ольса» і «Залаты двор». Маладзёжны тэатр эстрады — не самая ўдалая пляцоўка для такіх мерапрыемстваў: сучасныя інтэр'еры не дазваляюць напоўніцу прасякнуцца духам тых часоў.

Магнаты Радзівіл Чорны, Радзівіл Руды са сваёй жонкай Альжбетай, Астафей Валовіч, падканцлер, і іншыя прадстаўнікі эліты Вялікага Княства абмяркоўвалі на сцэне актуальныя праблемы Бацькаўшчыны. Жартавалі пра курс талера і выказвалі меркаванне, што Рэфармацыя зможа вырашыць усе беларускія праблемы.

Размовы пра лёс Бацькаўшчыны разбавіў ансамбль старажытнага танца «Залаты двор». Трохі не хапала сапраўднага балю. Калі б «Залаты двор» у холе тэатра зладзіў хоць невялікі майстар-клас, казалі гледачы. Любы баль у зале збярэ большую колькасць ахвотных прыйсці, чым баль «у крэслах».

Але выступ гурта старажытнай музыкі «Стары Ольса» дапамог канчаткова пераключыцца на святочны настрой.

Алёна Сітнік, галоўны рэжысёр канцэрта, кажа, што баль — гэта спроба ўвесці традыцыю святкавання Дня Рэфармацыі. Каб насамрэч аднавіць традыцыю, трэба звярнуць увагу шырэйшай аўдыторыі, якая не абмяжоўваецца аматарамі творчасці «Старога Ольсы».

Сёлета зала была запоўненая цалкам. Магчыма, «Баль у Радзівіла» змог адцягнуць частку аўдыторыі Хэлоўіна. Хоць Дзень Рэфармацыі нашмат складанейшы для ўспрымання за гарбузы са свечкамі, якіх апошнімі днямі ў Мінску мноства.

**ЮУ**


BELAPAN.COM

# Кубышкін: Тысяча даляраў за карпаратыў — гэта няшмат

Прадзюсар Ані Шаркуновай і Германа распавёў «НН», **што трэба, каб стаць прадзюсарам**.

**«Наша Ніва»: Эстрадных артыстаў часта папракаюць тым, што яны зарабляюць на карпаратывах...**

**Уладзімір Кубышкін:** На карпаратывы запрашаюць толькі артыстаў, якіх паважаюць, асабліва на вяселлі. Калі людзі ў найважнейшы дзень запрашаюць да сябе артыста, гэта дарагога варта.

Што да расцэнак — запіс адной песні Ані Шаркуновай каштуе дзве-тры тысячы даляраў. Сярэдні кошт карпаратыва — 1000 даляраў. Гэта няшмат, але мы не можам дазволіць сабе апусціцца ніжэй.

**«НН»: А гэта нічога, што даводзіцца спяваць чужыя песні на замову?**

**УК:** Калі артыст спявае чужы, але якасны матэрыял, планка яго ўласнай творчасці ўздымаецца. Дарэчы, гэта мінус квоты на 75 працэнтаў беларускай музыкі ў эфіры — мы ў пэўным сэнсе адрэзаныя ад сусветнай эстрады.

**«НН»: А хіба квота на 75 % беларускай музыкі пайшла на шкоду?**

**УК:** Гэта была сапраўдная рэвалюцыя ў шоу-бізнэсе! Яна дапамагла людзям, для якіх музыка была хобі ці другой-трэцяй прафесіяй, знайсці сваю аўдыторыю. Кожны змог знайсці свайго героя, бо ў J:морса і Хлястова розная аўдыторыя.

Аднак цяпер квота састарэла — надта шмат някаснай музыкі, а музыка сапраўды добрая губляецца на яе фоне. Эстрада мусіць выжываць самастойна. У нас сітуацыя яшчэ нядрэнная ў музычным плане — у Літве ці Малдове якаснай музыкі менш, бо краіны невялікія. І жывуць жа.

**«НН»: Як робяцца прадзюсарамі? Вы недзе вучыліся на гэта?**

**УК:** Не, стаў абсалютна выпадкова. Мы з сябрам пісалі песні для капуснікаў у Медычным універсітэце, дзе я тады вучыўся. Пасля я пазнаёміўся з чалавекам, які мне расказаў, як можна зарабляць грошы, ствараючы музыку. У 1998 і з'явіўся жаночы гурт «Лета». Запісы пачулі ў Маскве і прапанавалі мне кантракт...

**«НН»: Вы працуеце з Германам і Шаркуновай, ці ёсць у Вас нейкія новыя праекты?**

**УК:** Я зараз раблю жаночы гурт «Ямайка». Але гэта будзе не класічны гёрлз-бэнд, менш «гламурны», хутчэй такі дзявочы задор.

**«НН»: Ці не хацелася б Вам стварыць беларускамоўны праект?**

**УК:** Гэта вялікае пытанне. Ёсць N.R.M., «Крамбамбуля» ці «Сябры». Гэта праекты высокага ўзроўню, якія дабіліся прызнання. Аднак беларускай мовы няма ў сучасных жанрах, гэта хутчэй мова этна-праектаў і андэграўнда.

**«НН»: У чым прычыны такой сітуацыі?**

**УК:** Ёсць такія выпадкі, калі пытанне «чаму» недарэчнае. Каб эстрада стала беларускамоўнай і запатрабаванай, неабходныя пэўныя палітычныя рашэнні, палітычныя зрухі, а пры іх мусіць змяніцца адно ці два пакаленні, тады, магчыма, прыярытэты зменяцца. Аднак тэндэнцыі ёсць, напрыклад, наш міністр культуры Павал Латушка, які размаўляе пабеларуску ў паўсядзённым жыцці. Гэта малады і вельмі прагрэсіўны чалавек.

**Юрась Ускоў**

## Давыдзька паабяцаў адкрыць беларускамоўны канал

Але **толькі пра «спадчыну»** і ў наступным годзе.

У інтэрв'ю «Советской Белоруссии» старшыня Белтэлерадыёкампаніі Генадзь Давыдзька расказаў пра рэбрэндынг на дзяржаўных каналах. Так, ад 4 лістапада БТ стане «Беларусь-1», а «Лад» з 14 лістапада — «Беларусь-2». Апошні будзе мець спартова-забаўляльную скіраванасць.


Давыдзька паабяцаў, што дзесьці праз год з'явіцца беларускамоўны кабельны канал «Беларусь-3».

«Беларусь-3» аб'яднае ўвесь кантэнт, які падыходзіць пад вызначэнне «Спадчына» (гэта працоўная назва), у эфіры якога з'явяцца новыя праекты пра культуру, гісторыю, шэдэўры сусветнага кіно — і ўсё будзе толькі на беларускай мове», — заявіў старшыня Белтэлерадыёкампаніі.

Спадарожнікавы тэлеканал «Беларусь-ТВ» стане кругласутачным «Беларусь-24», які ўжо ў снежні з'явіцца ў пакетах кабельных аператараў.

**Кастусь Матушыч**

## «Днём і ноччу ў хаце варта — КДБ»



Выйшаў свежы нумар часопіса «Дзеяслоў». Андрэй Федарэнка надрукаваў запісы «Сечка-15», Віктар Казько — нізку апавяданняў «Пра Моцю».

Апублікавана паэтычная нізка Уладзіміра Някляева «Лісты да Волі». Гэта вершы, напісаныя паэтам у турме КДБ і пад хатнім арыштам.

Нечакана легла карта
Мне й табе.
Днём і ноччу ў хаце варта
КДБ.

У нумары — невядомыя юнацкія вершы Анатоля Сыса. Прадмову да іх напісаў з-за кратаў Алесь Бяляцкі.

Друкуюцца творы і пераклады пераможцаў конкурсу Беларускага ПЭН-цэнтра, прысвечанага 100-годдзю Чэслава Мілаша.

Да часопіса прыкладзены дыск з дакументальным фільмам тэлеканала «Белсат» «Няскораная» пра Ларысу Геніюш.

**КМ**

## Сцісла

### Пракуратура адправіла словы Міхалка на аналіз

Адвакату, з якім заключыў дамову Сяргей Міхалок, паведамілі, што тэрмін пракурорскай праверкі працягнуты на тры месяцы. А таксама прызначаная лінгвістычная экспертыза. Міхалок пакуль вяртацца ў Беларусь не плануе: у Мінску з яго могуць узяць падпіску аб нявыездзе. А тады сарвуцца запланаваныя канцэрты.

### У акцёра Ігара Сігава — інфаркт

Адзін з самых вядомых беларускіх драматычных артыстаў трапіў у лякарню з інфарктам. Сігаў адчуў сябе кепска18 кастрычніка, у той жа дзень быў шпіталізаваны. 42-гадоваму акцёру было зроблена



шунтаванне, а цяпер яго жыццю нічога не пагражае. Але Тэатру беларускай драматургіі давялося тэрмінова пераглядаць афішу спектакляў на лістапад, у добрай палове якіх галоўныя ролі выконвае Сігаў.

### Вольскі напісаў песню пра выпадак з адцэнзураваным інтэрв'ю на Tut.by

На сайце радыё «Свабода» з'явілася новая песня Лявона Вольскага «Гасударсцвеннае ліцо». У ёй музыка паіранізаваў з сітуацыі, што адбылася ў простым эфіры Tut.by, які быў перарваны, калі Вольскі заспяваў песню пра старшыню выбарчай камісіі.

### Генак Лёска запісаў у Польшчы дыск «Хазардзіста»

Год таму яго пабачыла ўся Польшча ў папулярным тэлешоу Mam Talent. Пасля ён перамог у тэлешоу X Factor па выніках глядацкага смс-галасавання. Генак атрымаў 100 тыс. злотых і магчымасць запісаць дыск. Лёска нарадзіўся ў 1975 г. у Белаазёрску, на пачатку 90-х пераехаў у Польшчу. Жыў у Вроцлаве. Зарабляў тым, што граў на вуліцах.

**СМ; ЛГ; «Еўрарадыё»**

# «Нельга так доўга сядзець на троне»

У аўторак 25 кастрычніка на світанку ў Лівіі быў пахаваны Муамар Кадафі. Фотаздымкі нежывога былога кіраўніка Лівіі 20 кастрычніка абляцелі ўвесь свет. Дыктатар, які праславіўся дзясяткамі незаконных і, па сутнасці, грэшных справаў, паўстаў перад светам звычайным спалоханым старым чалавекам, які прасіў паратунку. Так для Муамара Кадафі скончылася 42-гадовае кіраванне Лівіяй.

Журналісты «НН» распыталі жыхароў Мінска, ці зачапілі іх падзеі ў Лівіі, а таксама ці шкадуюць жыхары сталіцы Каддафі.



— Трэба было ўсё ж такі судзіць, а не забіваць.



—Я думаю, што добрага чалавека забілі ні за што.



— Шкада чалавека, пры тым пры ўсім, што ён сволачу быў.



— У Афрыцы многія прэзідэнты ўжо па 40 гадоў сядзяць, яны павінны неяк мяняцца. Вядома, дрэнна, калі забіваюць чалавека, але нельга так доўга сядзець на троне.



— Я думаю, што ён проста дастаў, бо не выконваў патрабаванняў народа. Не рабіў таго, што прасілі людзі. Публічнае пакаранне сведчыць пра тое, што людзі не збіраліся цярпець.



— Што чалавека забілі — гэта дрэнна. Але што знялі самадура, то гэта добра.



— Я думаю, што лівійцы — малайцы. Што Кадафі забілі, то гэта, можа, і няправільна. Але ў астатнім малайцы. Гэта не нашыя, якія баяцца выйсці на Плошчу. Раней і я хадзіла, але цяпер жах нейкі творыцца.



— Тое, як яго забілі, сведчыць, што там людзі — жывёлы. І нічога добрага яны не пабудуюць цяпер. Прыстрэлілі б яго ціхенька дзе-небудзь у засценках, як КДБ робіць. А то разарвалі прынародна — несур'ёзна гэта.

**Запісала Настасся Шамрэй**

Піша Павел Севярынец.

# Беларуская глыбіня. Пад сэрцам Еўропы

*Жанчына, калі раджае,*
*Трывае пакуты,*
*Бо прыйшоў час яе.*
***Яна 16:21***

Беларусі блага.

Нічога новага: агульная млявасць і абыякавасць да жыцця. Нейкі незразумелы цяжар. Трывожна. Усё раздражняе. Ванітуе ад усяго, што творыцца вакол.

Часам такія прыкметы ўласцівыя і ўпадку духу, і цяжарнасці.

Гэтая жанчына, пра якую мне хочацца расказаць, не хоча называць свайго імя. Чэшка, хрысціянка, яна спадзяецца наведаць Беларусь — еўрапейцам, каб атрымаць беларускую візу, трэба рабіць дабро ўпотай.

Яе царква моліцца за беларускіх палітвязняў і збірае адмысловыя ахвяры. Таму й штогод ладзіць сустрэчы з беларусамі... пражскай капліцы, дзе калісьці прапаведаваў правадыр Рэфармацыі Ян Гус; яе сябры складаюць лісты і званоты ў чэшскія, беларускія і міжнародныя ўстановы; яе знаёмыя дасылаюць сюды сотні паштовак — і яна сама, вывучыўшы мову, выпраўляецца ад беларусаў, што прыязджаюць туды, каб размаўлялі пабеларуску.

У апошнім лісце яна згадвае, што беларускіх палітвязняў пачалі адпускаць праз 9 месяцаў пасля Плошчы — і нараджае верш:

Гэта павінен быў быць вялікі і слаўны
перадкалядны вечар.
Вечар радасці, весялосці і танцаў.
Вечар, напоўнены любоўю,
прабачэннем і прымірэннем.
Вечар новых пачынанняў,
пра які ніколі не забудзешся.

Замест гэтага прыйшоў жах…
Гвалт і боль, слёзы і страх.
Нянавісць і замяшанне, бясконцы жах.

У гэты слаўны перадкалядны вечар
цябе згвалцілі…
У гэты слаўны перадкалядны вечар
ты таемна зачала…

Месяцы балючай цяжарнасці,
Збіты, затаптаны ў зямлю гонар.
Пастаянны страх і бясконцыя слёзы.
Пытанні без адказаў і нявызначаная
будучыня.
Усюды вакол жах! Але…

Але недзе ўнутры цябе нешта расце.
Плод, зачаты гвалтам, расце і мацнее.
Незвычайна вялікі, незвычайна моцны.
Там, недзе ўнутры цябе,
пачынае жывіваць надзея,
Што ўзыдзе святло ў цемры.

Дзевяць месяцаў цяжарнасці
споўнілася.
Час нараджэння. Час праўды.
Згвалтаваная краіна нараджае
сыноў і дачок.
Моцныя, гордыя, магутныя,
Нязломныя, рашучыя, цвёрдыя
Выходзяць з чрэва
згвалтаванай маці — Беларусі.

Госпад падымае жанчыну з іншага, далёкага народа, каб сказаць нешта беларусам пабеларуску, каб маліцца і перажываць мацней, чым за сваё.

Чуецца голас той самай Еўропы, да якой Беларусь належала тысячу гадоў.

Беларусь, пад самым сэрцам Еўропы, цяжарная. І ў гэтым месцы ўжо мігцяць, мігцяць дванаццаць залатых зорачак на сінім еўрапейскім тле — хто не ведае даўні хрысціянскі сімвал, знак Дзевы Марыі.

Што можа даць Беларусі сённяшняя Еўропа? Прыслаўтыя 9 мільярдаў? Абодзейсную любоў, дзвюхтысячагадовую веру, маральную цвердзь?

Што ж тады можа даць Еўропе Беларусь?

Беларусачку, якая аддала сябе Еўропе, завуць Юля Фралова. Усё часцей у Нямеччыне ці Польшчы, у Беларусі яна бывае наездамі. Але менавіта яна — душа штодзённых малітваў за палітвязняў ля Чырвонага Касцёла. З пачатку года штовечар а 20-й вернікі розных канфесіяў збіраюцца ля помніка, дзе арханёл Міхаіл, падобны да беларускага крылатага гусара, паражае змея, выкладваюць на прыступкі партрэты палітвязняў, ставяць зніčкі і пачынаюць — малітвай з верша маладафронтаўца Алеся Кіркевіча: «Уратуй, Божа, бо Ты можаш!»

Юля — каталіцкая місіянерка. Сябра супольнасці «Каштоўная перліна», яна евангелізуе ў нямецкай глыбінцы, на вуліцах польскіх гарадоў і нават у Туркменістане. Але галоўным чынам беларусачка Юля расказвае пра Хрыста забыўлівым еўрапейцам. Рым, Кёльн, Прага, Фрайбург, Лісабон, Варшава, Мальта, Кракаў, Барселона, Фаціма — пералічваеш гарады, якія наведвае Юля, і пераліваецца, агукаецца рэхамі мелодыя еўрапейскай гісторыі, Адраджэння і Рэфармацыі, святая імша і касцёльныя харалы.

Юля — еўрапейская шляхцянка да глыбіні душы. Апроч роднай беларускай і расейскай, ведае польскую, ангельскую, нямецкую і італьянскую, бясконца вучыцца, вочна і завочна, псіхалогіі ды тэалогіі, і сядае есці толькі пасля малітвы, прычым не адно з відэльцам у левай руцэ, але і з нажом у правай.

Ад часоў снежаньскай Плошчы адзінай масавай акцыяй на Незалежнасці і быў зладжаны Юляй восеньскі канцэрт «Беларусь для Хрыста» з прыступак касцёла. Калі перад сотнямі гледачоў на пляцы залунаў белы сцяг з чырвоным надпісам «Богёсць любоў», загучала малітва па-беларуску і на заклік з мікрафона «На Беларусі Бог...» люд хорам азваўся «Жыве!!!» — прысутныя Яўсееў і Грышчанка не ведалі, што рабіць. «Кто разрэшыл?!»

І сапраўды: ну хто ёй дазволіў?

У тым жа месцы, дзе была стлумленая, разагнаная, запырсканая крывёю па снезе Плошча 2010-га — зноў жыве Беларусь.

Няхай цяжка. Цёмна. Халодна. Няхай надыходзіць доўгая зіма. Але менавіта ў гэтай халоднай і змрочнай глыбіні ўгадваецца зорка: хутка Раство. На ўскрайку свету, у загоне для быдла, ніяк інакш, у цярпеннях і болях — нараджаецца Бог.

*Куплін*



**Павал Севярынец**

палітык, пісьменнік. Сузаснавальнік Маладога Фронту, пасля Беларускай Хрысціянскай Дэмакратыі. Асуджаны на тры гады «хіміі» па справе так званых «масавых беспарадкаў» — так лукашэнкаўцы называюць пратэсты з патрабаваннем дэмакратыі і справядлівасці, што адбыліся ў дзень выбараў 19 снежня. Адбывае пакаранне ў Купліне Пружанскага раёна.

**Ванітуе ад усяго, што творыцца вакол, усё раздражняе. Такія сімптомы ўласцівыя і ўпадку духу, і цяжарнасці »**

## Севярынец «стаў на шлях выпраўлення»

Палітвязня рыхтуюць да вызвалення ці змены рэжыму адбыцця пакарання.

27 кастрычніка атэстацыйная камісія камендатуры ў вёсцы Куплін (Пружанскі раён) прызнала, што сустаршыня БХД Павел Севярынец «стаў на шлях выпраўлення».

Сам палітвязень гэтак расказвае пра здарэнне. «Яшчэ ў абед мяне выклікаў да сябе намеснік начальніка камендатуры. Запытаўся, ці не змянілася маё стаўленне адносна прызнання віны. Сказаў, што ніякіх змен. Тым не менш, дзесьці, а 19-й адбылося пасяджэнне атэстацыйнай камісіі з удзелам адміністрацыі камендатуры і праваслаўнага святара. Былі зачытаныя станоўчыя характарыстыкі на мяне. А таксама было прызнана, што я «стаў на шлях выпраўлення», — кажа Павел.

На думку палітыка, гэта можа прывесці да змены формы адбыцця пакарання. «Цяпер гэта пусцяць у вышэйшыя інстанцыі. Магчыма, будзе заменa рэжыму з «хіміі» на «хатнюю хімію» ў Віцебску. Існуе такі артыкул у заканадаўстве. Але не думаю, што гэта будзе хутка вырашана», — расказвае Павел.

Не так даўно яму ўжо прапаноўвалі перавод дадому, пры ўмове, што Севярынец хаця б вусна пакаецца. Аднак палітык гэтага не зрабіў.

**Зміцер Панкавец**





## Кніга пра «адмарозкаў», «ворагаў народа» і «пятую калону»

Гэтую кнігу вы не купіце ў кнігарнях. Згадак пра яе вы не пабачыце на старонках афіцыйнай прэсы. Маючы амаль 600 старонак вялікага фармату, у тым ліку 16 каляровых, яна скрупулёзна апісвае ўсе дэманстрацыі і мітынгі на тэрыторыі Беларусі апошніх 20 гадоў. Сухія статыстычныя выкладкі — год, месца правядзення, колькасць удзельнікаў, асноўныя лозунгі — перамяжоўваюцца грунтоўнымі аналітычнымі ўводзінамі ў тэму і эпоху Андрэя Казакевіча, Тацяны Чыжовай, Андрэя Ягорава і іншых палітолагаў. Даследчык Ян Шумскі знайшоў і выдаў сакрэтныя дакументы з архіва ЦК КПСС, прысвечаныя сітуацыі ў БССР напярэдадні краху Савецкага Саюза. Насуперак стэрэатыпам, яны паказваюць, што і тады ў Беларусі існавала традыцыя супраціву, шырыўся самвыдат, а таксама ішла барацьба за нацыянальную школу.

Гісторык Алег Дзярновіч сістэматызаваў улёткі, значкі, налепкі і іншую прадукцыю, якая выдавалася напярэдадні масавых акцый на ўсёй Беларусі. Нарэшце, укладальнікі Андрэй Дынько і Валер Булгакаў адабралі больш за 500 унікальных здымкаў, на якіх адлюстраваны тысячы людзей на Плошчах у Мінску, Наваполацку, Віцебску, Гродне, Гомелі. Ужо толькі іх светлыя абліччы эфектыўна руйнуюць прапагандысцкія міфы пра малалетак і баевікоў з апазіцыі як асноўнага кантынгенту альтэрнатыўных масавых мерапрыемстваў.

Гэтая кніга тэрапеўтычная: яна паказвае шырокі сацыяльны размах нацыянальнага руху. Нарэшце, яна дае нам надзею, што загляне сонца ў наша аконца.

**Знайдзі сябе і знаёмых у кнізе. Дакраніся да сваёй найноўшай гісторыі. Закажы кнігу «Хрышчэнне нацыі. Масавыя акцыі 1988–2009».**

**Да 10 лістапада кнігу (574 старонкі, фармат 165 на 240 мм) можна набыць за 30 тыс. рублёў плюс цана перасылкі.**

Каб аформіць замову, дашліце e-mail з пазначэннем вашага прозвішча, імя і імя па бацьку, а таксама дакладнага паштовага адраса (абавязкова з індэксам) на адрас analityka@yahoo.com. Для лепшай камунікацыі абавязкова пазначце нумар вашага кантактнага тэлефона. Увага: у полі «Тэма ліста» пазначайце — «Акцыі».

**Кніга будзе дастаўлена на ўказаны вамі паштовы адрас накладзеным плацяжом. Аплата па факце атрымання пасылкі — г.зн. грошай наперад высылаць не трэба. Чакаем вашых замоваў!**

Афэрта дзейнічае толькі на тэрыторыі Беларусі.

E-mail для даведак: analityka@yahoo.com

Найбольш значныя мясціны і будынкі беларускай сталіцы — у новым праекце гісторыка **Алега Дзярновіча** «Энцыклапедыя Мінска».

# Энцыклапедыя Мінска.
# Царква Святога Духа


СЯРГЕЙ ГУДЗІЛІН

## Сэрца новага Менска

Гэтая царква паўстала на Высокім Рынку Менска ў XVII ст. і была ядром двух базыльянскіх (уніяцкіх) кляштараў — жаночага і мужчынскага.

Першапачатковы Менск меў традыцыйную сярэднявечную структуру — радыяльна-канцэнтрычную, калі асноўныя вуліцы разыходзіліся ад замка. Вялікі пажар 1547 г. паспрыяў змене планіроўкі горада. Вялікі князь Жыгімонт Аўгуст загадаў перанесці «на іншае месца рынак і некаторыя вуліцы». На пагорку, што ўзвышаўся з усходу над старажытным Менскам і быў заселены яшчэ з XII ст., пачалі ствараць новы гарадскі цэнтр.

Гэта быў цэнтр магдэбургскага горада: галоўныя будынкі месціліся ўжо не ля замка (рэзідэнцыі вялікакняскага намесніка, а пазней ваяводы), а на рынкавым пляцы, побач з ратушай.

## Унікальныя роспісы

Там і ўзнікае комплекс уніяцкіх манастыроў з царквой Святога Духа. Яшчэ ў пачатку 30-х гадоў XVII ст. на ратушным пляцы мелася вольнае месца пад назваю «Лужа», якое ў 1636 г. перадалі мужчынскаму манастыру для будаўніцтва мураванай царквы. А імпульсам да пачатку будоўлі стала, падобна, ахвяраванне ў 1634 г., паводле тастамента, на карысць манастыра 2000 злотых багатым полацкім месцічам.

У 1641 г. па фундацыі троцкай кашталянкі Зузаны Гансеўскай побач з мужчынскім быў заснаваны яшчэ і жаночы ўніяцкі манастыр. Але вольнага месца, каб паставіць царкву манашкам, на тэрыторыі плошчы Верхні рынак не было. Царква Святога Духа, якая тады будавалася, стала супольнай для двух манастыроў — мужчынскага і жаночага, што было рэдкай практыкай у манастырскім дойлідстве.

Жаночы манастыр быў злучаны з царквою крытай двух’яруснай галерэяй: манашкі маглі трапляць у сваю царкву, не выходзячы ў горад.

Архітэктурна-мастацкае вырашэнне царквы зрабіла яе адной з самых адметных хрысціянскіх бажніцаў Менска XVII ст. Яе франтон быў створаны яўна пад уплывам Паўночнага Рэнесансу. Нечаканым быў фрэскавы роспіс — арачныя нішы з выявамі святых. Фактычна, іканастас вонкі. Такі сінтэз архітэктуры і манументальнага жывапісу рэдкі для культавага дойлідства Еўропы. Яго можна лічыць унёскам Беларусі ў сусветную архітэктурную традыцыю. У Беларусі ж XVII ст. многія цэрквы, найперш праваслаўныя, мелі на фасадах цэлыя ансамблі фрэскавага жывапісу.


**Фасад быў упрыгожаны фрэскамі.**


СЯРГЕЙ ГУДЗІЛІН

**У адноўленым будынку захаваныя гістарычныя падмуркі.**

## Царква трымала маскоўскую аблогу

Да 1650-х гадоў будаўніцтва царквы і манастыроў было скончана, бо ў 1651 г. уніяцкі мітрапаліт Антоні Сялява наказаў у спадчыну манастыра базыльянак 20 000 злотых. Пры гэтым мітрапаліт выказаў толькі адно пажаданне — быць пахаваным у царкве Святога Духа. Ці ні яго парэшткі адшукалі будаўнікі, раскопваючы падмуркі падчас аднаўлення царквы?

Царкву пачалі ўзводзіць, калі ў Менску ўжо быў насыпаны, на загад караля Уладзіслава Вазы, гарадскі вал з парканам і брамамі. Але храм меў і абарончыя функцыі, якія былі выкарыстаныя ў часы вайны Рэчы Паспалітай з Масковіяй у 1654—1667 гг.

## Ператварэнне ў піражнае

Адметны вобраз комплекс базыльянскіх манастыроў з царквой Святога Духа захаваў да расійскіх часоў. У 1795 г. царква Святога Духа стала праваслаўным кафедральным саборам Святых Пятра і Паўла. Абмеры 1843 г. даносяць да нас аблічча царквы, якая яшчэ захоўвала ўніяцкія рысы.

Злом ранейшага ладу жыцця не мог не адбіцца на абліччы царквы. У 1840-я адбылася першая значная перабудова — фасад страціў рысы хвалістага рэнесансу і прыдбаў дзве лаканічныя вежы-званіцы. Частку скляпенняў разабралі, узвялі купал.

Славуты апісальнік Менска XIX ст. Уладзіслаў Сыракомля ў 1857 г. называў Петрапаўлаўскі сабор «цудоўна адноўленым».

Радыкальная ж перабудова адбылася ў 1893 г., калі царква стала трохнефавай і набыла рысы маскоўска-яраслаўскага стылю ў яго эклектычным і казённым прачытанні. З-за густога дэкору царква стала нагадваць вялікае салодкае піражнае.

## Піўбар «Ясень»

Цэнтральнае размяшчэнне Петрапаўлаўскага сабора выклікала непрыязнасць у новай, бальшавіцкай улады. У 1936 г. саспеў загад пра разбурэнне царквы.

На той час у Менску існавала прафесійная каманда, здольная бурыць падобныя аб’екты без шкоды для навакольнай забудовы. Стваральнікам каманды быў Пятро Грыгарэнка — у будучым генерал, савецкі дысідэнт і праваабаронца. У 1934—1936 гадах ён служыў начальнікам штаба асобнага сапёрнага батальёна ў Віцебску. У 1934 г. так прафесійна падарваў будынак Успенскага сабора, што быў прэміяваны. У сваёй культавай кнізе «У падполлі можна спаткаць толькі пацукоў...» дысідэнт Грыгарэнка назаве тую прэмію «ўласнымі 30 срэбранікамі».

У 1936 г. Грыгарэнка быў пераведзены ў Менск, дзе служыў камандзірам 52-га асобнага інжынернага батальёна Менскага ўмацаванага раёна, які пазней кан’юнктурныя публіцысты назавуць «Лініяй Сталіна». Грыгарэнка паспеў яшчэ знесці ў Менску будынак Казанскай (Чыгуначнай) царквы, не пашкодзіўшы нават шкельца ў суседнім Доме ўрада. Ад удзелу ў далейшых разбурэннях ён адмовіўся. Петрапаўлаўскі сабор знішчалі без Грыгарэнкі.

Вызваленае месца ўлады не ведалі, чым заняць. Там размяшчалі вандроўны звярынец, дэсакралізуючы месца царквы. Мінчанам 1960—1980-х гэты куток горада вядомы як піўны бар «Ясень», металічны павільён якога паставілі акурат на падмуркі храма. Эфектна выглядала ў бары плітка падлогі, выкладзенай у чорна-белым арнаменце шахматнай дошкі. Гэтая плітка захавалася яшчэ ад падлогі царквы.

**Гэта быў цэнтр магдэбургскага горада**

## Інтрыгі аднаўлення

У 1979 г. быў распрацаваны першы праект рэканструкцыі царквы Святога Духа. Прапаноўвалася аднаўленне пачатковага выгляду святыні. Гэта выклікала энтузіязм. Здавалася, ад планаў па знішчэнні Верхняга горада ўлады БССР пяройдуць да яго рэканструкцыі. Дарэчы, у інтэлектуальным сэнсе большасць сённяшніх праектаў рэстаўрацыі — рэалізацыя планаў 1980-х, бо апошняе дваццацігоддзе было ў гэтым сэнсе інтэлектуальна страчаным.

Горадабудаўнічая сітуацыя патрабавала вырашэння праблемы пустэчы ў цэнтры Верхняга горада. У 2004 г. мітрапаліт Філарэт звярнуўся да тагачаснага старшыні Мінгарвыканкама Міхаіла Паўлава з прапановаю пабудовы на месцы царквы Святога Духа праваслаўнай капліцы. Гэтым, відавочна, меркавалася «замацаваць» месца. Але мінскія ўлады не пайшлі на парушэнне зацверджанай канцэпцыі рэканструкцыі Верхняга горада.

У 2009 г. пачалося аднаўленне. Праект патранаваў новы граданачальнік Мікалай Ладуцька, які асабіста ўдзельнічаў у афіцыйным адкрыцці будынка 10 верасня 2011 г. Цікава, што сярод уладнай вертыкалі з’явілася пэўная мода на падтрымку падобных прэстыжных праектаў.

Як толькі інфармацыя пра рэканструкцыю будынка трапіла ў прэсу, група свецкіх грэка-каталікоў звярнулася да Лукашэнкі з просьбай дазволіць адбудаваць менавіта ўніяцкую царкву. У лісце Мінгарвыканкама ў адказ паведамлялася, што праект па аднаўленні будынка колішняй царквы «ў першапачатковым выглядзе як гістарычна-культурнага, а не культавага аб’екта» быў распрацаваны яшчэ ў 1984 г.

Такім чынам, мы маем не саму царкву Святога Духа, а рэканструяваны будынак, прыстасаваны пад канцэртную залу дзіцячай філармоніі «Верхні горад».

## У чым здабыткі?

Беларускія рэстаўратары пераўзышлі сябе — упершыню за апошні час у адноўленым будынку захаваныя гістарычныя падмуркі, печы і дымаходныя каналы, знойдзеныя падчас археалагічных раскопак. Паводле крытэрыяў Міжнароднай рады па пытаннях помнікаў і гістарычных мясцінаў такі аб’ект лічыцца помнікам. У адрозненне, дарэчы, ад Мінскай ратушы, якая ёсць чыстым муляжом, бо ўсе гістарычныя падмуркі былі выкінутыя каўшом экскаватара.

Рэстаўратары не здолелі аднавіць фрэскі на фасадзе. І шкада, што франтон не быў увенчаны крыжам — пэўная незавершанасць яго адчуваецца.

Багата пытанняў выклікае і бакавая службовая прыбудова ў стылі 1970-х. Гэтую гульню стыляў можна было зрабіць і больш карэктна. Затое адноўленая галерэя зноў спрабуе зніТаваць у адзіны ансамбль расцярушаныя будынкі былога базыльянскага комплексу.

Застаецца спадзявацца, што станоўчы досвед, здабыты пры аднаўленні царквы Святога Духа, рэстаўратары выкарыстаюць у іншых аднаўленчых працах.

# «Лістапад-2011»

**З 5 па 12 лістапада ў Мінску** пройдзе XVIII міжнародны кінафестываль «Лістапад». Адкрываць фестываль будзе фільм расійскага рэжысёра Андрэя Звягінцава «Алена». Беларускіх мастацкіх стужак, на жаль, сёлета не будзе. Затое ўпершыню падчас «Лістапада» будуць паказы не толькі кінафільмаў, але і некалькіх тэатральных пастановак.




## АРХІТЭКТУРА

### «Мінск-2011»

**3-5 лістапада ў Палацы мастацтваў (Казлова,7)** адбудзецца IX Нацыянальны фестываль архітэктуры «Мінск-2011». Уваход будзе вольным.

## ФУТБОЛ

### 31 тур

**5 лістапада** сустракаюцца: «Віцебск» — «Тарпеда-БелАЗ», «Дняпро» — «Мінск», «Дынама» (Брэст) — «Гомель», «Дынама» (Мінск) — «Белшына», «Шахцёр» — «Нафтан».
**6 лістапада:** «Нёман» — БАТЭ.

## ХАКЕЙ

### «Дынама» гуляе дома

**2 лістапада:** «Дынама» (Мінск) — «Спартак» (Масква).
**4 лістапада:** «Дынама» — «Поўначсталь» (Чарапавец). **6 лістапада:** «Дынама» — «Віцязь» (Чэхаў). У будні дні матчы на «Мінск-Арэне» пачынаюцца ў 19:00, у выходныя — у 17.

## ІМПРЭЗЫ

### Без палітыкі

**16 лістапада а 17-й у галерэі сучаснага мастацтва «Ў» (пр.Незалежнасці, 37а)** адбудзецца прэзентацыя кнігі Аляксандра Тамковіча «Без палітыкі».

## КАНЦЭРТЫ

### Алег Хаменка

**3 лістапада а 20-й у «Містралі» (Валадарскага, 22)** — Алег Хаменка і сябры.

### Без Білета

**5 лістапада а 19-й у Палацы культуры Маладзечна (Цэнтральная плошча, 4)** — «Без Білета».
**19 лістапада а 19-й у мінскім Палацы спорту** — «Без Білета».

### Трыб'ют The Beatles

**6 лістапада а 18-й у «Re:Public»** — трыб'ют The Beatles. Бяруць удзел Artefact, Love Is, The Apples, DJ Ezhaka.

### Троіца

**14 лістапада а 19-й у Малой зале КЗ «Мінск»** — этна-трыа «Тройца».

### The UNB

**5 лістапада а 18-й у «Графіці» (зав.Калініна, 16)** — The UNB.

### Жывыя

**13 лістапада ў Re:public** — Flëur з праграмай «Жывыя».

### Gods Tower

**11 лістапада ў Re:public** — Gods Tower. **Пачатак а 19-й.**

## ВЫСТАВЫ

### Мастацтва Японіі

**У Мастацкім музеі да 10 лістапада** працуе выстава «Традыцыйнае дэкаратыўна-прыкладное мастацтва Японіі». Экспазіцыя знаёміць з керамікай, парцалянай, тэкстылем, лакамі, шклом, металам, бамбукам і японскай паперай…

### Вітаўт і Ягайла

**Да 3 лістапада ў Гістарычным музеі** можна наведаць рэканструкцыю гістарычных пастацей вялікага князя Вялікага Княства Літоўскага Вітаўта і польскага караля Ягайлы. Рэканструкцыя ўяўляе сабой партрэтныя скульптуры, выкананыя ў поўны рост.

### Аднойчы восеньскі фатограф

**Да 12 лістапада ў Музеі гісторыі беларускага кіно (Свярдлова, 4)** працуе персанальная выстава мастацкай фатаграфіі кінааператара «Беларусьфільма» Аляксандра Бецева «Аднойчы восеньскі фатограф».

### Палёт матыля

**У Галерэі TUT.BY (Харужай, 1а, 6-ы паверх)** працуе выстава «Палёт матыля» — дэбютны арт-праект Ніны Райдан і Наталлі Ярарай, у каторым аўтары паспрабавалі раскрыць тэму кахання.

### Фота Соф'і Хамянтоўскай

**У Гістарычным музеі (Маркса, 12)** працуе выстава «Соф'я Хамянтоўская «Паміж кадраў. Фатаграфіі з 1925—1945 гадоў». Выстава наватарскім спосабам прэзентуе творчасць фатографа Соф'і Хамянтоўскай, якая нарадзілася і звязана з Палессем. Амаль увесь матэрыял прадстаўлены ўпершыню.

### Маякі

**Мастацкая галерэя «Вільнюс» (Калiноўскага, 55)** запрашае на выставу бацька Алены Рэшатавай «Маякі». На выставе прадстаўленыя больш за 30 прац, выкананых у тэхніцы халоднага і гарачага бацька.

### Манументальнае мастацтва Беларусі

**У Палацы мастацтва да 6 лістапада** працуе мастацкая выстава «Манументальнае мастацтва Беларусі», дзе прадстаўленыя манументальны і манументальна-дэкаратыўны жывапіс, дэкаратыўна-прыкладное мастацтва — лепшыя творы за апошняе дзесяцігоддзе.

### Графіка-2011

**У Палацы мастацтва да 6 лістапада** працуе выстава «Графіка-2011» — справаздачная выстава секцыі графікі Беларускага саюза мастакоў. У экспазіцыі паказаныя работы станкавай і кніжнай графікі, створаныя за апошнія пяць гадоў, разнастайныя па фармату, тэхніцы і тэматыцы.

### Дакрануцца да сонца

**Да 12 лістапада ў мастацкай галерэі «Універсітэт культуры» (Кастрычніцкая пл., 1)** працуе персанальная выстава Васіля Пешкуна «Дакрануцца да сонца». Сонечнае святло з'яўляецца галоўным героем яговых твораў. Яркія блікі, стракатая вясёлка, гуллівыя сонечныя зайчыкі — палітра мастака.

### Сатырычныя рысункі

**У Музеі сучаснага выяўленчага мастацтва (пр.Незалежнасці, 47)** да 6 лістапада працуе выстава «Сатырычныя рысункі. Плакат/ Rysunki satyryczne. Plakat» Богны Отто-Вэнгжын і Монікі Старовіч. Польскі плакат, дзякуючы арыгінальнасці і тэхнічнаму майстэрству, карыстаецца прэстыжам у свеце. Жарт, метафара, сцэнаграфія — гэта яго распазнавальныя знакі. Плакат з'яўляецца вулічным мастацтвам, але на вуліцах яго жыццё не заканчваецца, пазней ён трапляе ў галерэі і музеі.

### Кераміка і парцаляна Кітая

**У Мастацкім музеі (Леніна, 20) да 24 лістапада** працуе выстава «Кераміка і парцаляна Кітая». Калекцыя дае ўяўленне аб развіцці керамічнага майстэрства Кітая. Вы можаце ўбачыць керамічныя вырабы дынастыі Мін і Цын, а таксама сучасную кітайскую кераміку.



### IQ48

**4 лістапада а 19-й у Re:Public** (Прытыцкага, 62) — IQ48.

## ТЭАТРЫ

### 2 лістапада

**Лялек** — «Марынка-крапіўніца»
**Оперы і балета** — «Папялушка»

### 3 лістапада

**Лялек** — «Чаму старэюць людзі»

### 4 лістапада

**Лялек** — «Чароўныя падарункі»

### 5 лістапада

**Лялек** — «Кот у ботах»

### 6 лістапада

**Лялек** — «Жахлівы спадар Ау»

### 8 лістапада

**Беларускай драматургіі** — «Неба ў дыяментах»

### 9 лістапада

**Купалаўскі** — «Пінская шляхта»
**Купалаўскі** — «Старамодная камедыя»

### 10 лістапада

**Купалаўскі** — «Не мой»

### 11 лістапада

**Купалаўскі** — «Офіс»

### 12 лістапада

**Лялек** — «Піпі-Доўгаяпанчоха»
**Оперы і балета** — «Севільскі цырульнік»

### 13 лістапада

**Лялек** — «Мыйдадзір»
**Оперы і балета** — «Чароўная музыка»
**Купалаўскі** — «Хам»
**Оперы і балета** — «Спячая прыгажуня»

### 14 лістапада

**Беларускай драматургіі** — «Мужчыны на мяжы нервовага зрыву»

### 15 лістапада

**Беларускай драматургіі** — «Каласы пад сярпом тваім»
**Оперы і балета** — «Тоска»

### 16 лістапада

**Беларускай драматургіі** — «Што баліць?»
**Оперы і балета** — «Лебядзінае возера»
**Купалаўскі** — «Самотны захад»

### 17 лістапада

**Купалаўскі** — «Самотны захад»
**Беларускай драматургіі** — «Чайка»

### 18 лістапада

**Лялек** — «Дом, які пабудаваў Свіфт»
**Беларускай драматургіі** — «Чорны квадрат»

### 19 лістапада

**Лялек** — «Прыгоды Пін-Піна»
**Беларускай драматургіі** — «Воўк-мараплавец»
**Беларускай драматургіі** — «Адвечная песня»
**Оперы і балета** — «Бальмаскарад»

### 20 лістапада

**Лялек** — «Марозка»
**Оперы і балета** — «Тры парсючкі»
**Оперы і балета** — «Багема»
**Купалаўскі** — «Вечар»

### Польскі тэатр

**11 лістапада ў Палацы спорту а 19-й** — «Планета Лем» у выкананні тэатра Biuro podroży.

## КІНО

### Як купіць час

**Час** (In Time)
ЗША, 2011, каляровы, 109 хв.
**Рэжысёр:** Эндру Нікал
**Ролі выконваюць:** Джастын Цімбэрлэйк, Аманда Сайфрэд, Кіліан Мэрфі, Алівія Уальд
**Жанр:** Фантастычны трымценнік
**Адзнака:** 6,5 (з 10)

У будучыні ўсе дарослыя выглядаюць на 25 гадоў. Каб жыць далей, яны мусяць набываць час. У бедных у запасе толькі гадзіны і суткі, а багацеі цешацца стагоддзямі. Уіл — хлопец з працоўнага гета, які трапіў у квартал для багатых, а пасля ўцёк з дачкой фінансіста. Цяпер закаханая парачка — пагроза для ўсёй сістэмы.
Час у фільме купляецца, крадзецца і прадаецца. Філіжанка кавы — чатыры хвіліны, машына — 59 гадоў, квіток на аўтобус — дзве гадзіны (кошты заўжды растуць). Перапады часу выбухаюць гангстарскім экшэнам: героі стужкі вядуць сябе, як «Боні і Клайд». Але ў гэтых добрых разбойнікаў, якія заклікаюць да «акупацыі» багатых раёнаў, заўжды добры макіяж і фрызура. Гледачам кіно будзе каштаваць 109 хвілін.

**Андрэй Расінскі**



# Як падрыхтаваць аўто да зімы

**Карысныя парады**
для кіроўцаў.

Рыхтаваць машыну да зімы лепш загадзя, не чакаючы першых снегападаў. Лепш за ўсё правесці поўную дыягностыку аўтамабіля ў міжсезонне, аднак, калі на гэта бракуе часу і грошай, «мінідыягностыку» можна правесці і самому.

### Не рызыкуйце дарма

Адно завядзенне рухавіка ў мароз ад мінус 17 градусаў супастаўнае па зносе дэталяў з некалькімі кіламетрамі прабегу. Атрымліваецца, што адна сярэднестатыстычная паездка на працу і з працы ў мароз — гэта страта 600 кіламетраў прабегу.

Не варта забываць, што амартызатары, рычагі падвескі, калодкі, тармазы, колы працуюць, труцца ўзімку на ледзяным ветры і

**Зіма «зжырае» аўтамабіль разоў у пяць інтэнсіўней за лета »**

зношваюцца значна мацней, чым улетку. Зіма «зжырае» аўтамабіль разоў у пяць інтэнсіўней за лета, кажуць эксперты.

У сувязі з гэтым лепш лішні раз не рызыкаваць і ў асабліва лютыя маразы аддаць перавагу аўтобусу.



PHOTO.BYMEDIA.NET

### Тармазы

Тармазныя калодкі перад зімой лепш замяніць, нават калі яны не зусім зношаныя. Памятайце, што рознасць тармазных момантаў колаў з'яўляецца асноўнай прычынай заносаў.

Пры замене калодак трэба звярнуць увагу на стан тармазных цыліндраў: калі на іх з'явіліся сляды тармазной вадкасці, то, хутчэй за ўсё, у іх зношаны абшыўкі і ўзімку яны могуць пацячы. Саму тармазную вадкасць таксама варта замяніць.

### Запоўніць бензабак да мяжы

Уладальнікам цёплых гаражоў і аўтамабіляў з інжэктарным рухавіком эксперты рэкамендуюць перад выездам на моцны мароз цалкам напоўніць бензабак. Чым больш у баку паветра, тым больш утрымліваецца ў ім вадзяной пары. У выніку яна крышталізуецца, асядае у паліве, а пасля «губіць» паліўную сістэму.

### Небяспекі «лысага» кіравання

Галоўная прыкмета пачатку аўтамабільнай зімы — чэргі з кіроўцаў каля шынамантажу. Мяняць гуму зараз самы час. Раней у беларусаў былі два напаміны, калі варта ехаць на шынамантаж. Гэта час, калі ўключалася ацяпленне і пераводзіліся гадзіннікі. Хоць у Беларусі зімовы час не наступіць ужо ніколі, арыентавацца на апошнія выходныя кастрычніка ўсё ж можна.

Пажадана, каб вышыня пратэктара была не меней за 4 мм. Апроч таго, варта павялічыць ціск у шынах на 0,2 бар у параўнанні з летам.

### Акумулятар

Калі пры першых замаразках узніклі праблемы з пускам рухавіка, праверце ўзровень дыстыляванай вады ў акумулятары. За лета яна магла выпарыцца.

Тым, хто вырашыў усё ж ашчадзіць на новым акумулятары, варта запасціся праводамі для «прыкурвання», каб у аварыйнай сітуацыі можна было звярнуцца да суседа.

Акумулятар з марозу выратуе гарачая ванна: занясіце яго дахаты і пастаўце хвілін на 10 у гарачую ваду так, каб яна пакрывала прыбор на 2/3.

### Рыхтуй кузаў з восені

Кузаў увесь час знаходзіцца пад уздзеяннем дажджу і перападаў тэмпературы, а ўзімку на яго асядае яшчэ і соль, якой пасыпаюць дарогі. Так што антыкаразійная падрыхтоўка кузава — аперацыя, неабходная не толькі для старога аўтамабіля, але і для новага. Самы эканамічны варыянт — пакрыць паверхню кузава воскам.

Узімку машыну варта мыць часцей, асабліва знізу, каб бруд на ёй не затрымліваўся. Але ні ў якім разе нельга мыць аўтамабіль у халоднае надвор'е гарачай вадой.

### Іншае

Перад зімой рэкамендуецца цалкам замяніць астуджальную вадкасць антыфрызам, устойлівым да нізкіх тэмператур. Свечкі запальвання лепш паставіць новыя. Старыя, калі яны не наездзілі свае законныя 15—30 тысяч кіламетраў, не выкідвайце. Яны вам яшчэ паслужаць у наступным цёплым сезоне. Масла і масляны фільтр перад маразамі таксама варта замяніць.

Кажучы пра электраабсталяванне, звярніце ўвагу на стан рэменя генератара. Ён не павінен мець расколін, быць замасленым. Праверце яго нацяжэнне. Ад працы генератара шмат у чым будзе залежыць падзарадка акумулятарнай батарэі, ды і праца ўсёй сістэмы электраабсталявання.

У бачок шклаамывальніка можна ўжо зараз заліць незамярзальную вадкасць. Калі прыйдзе мароз і вада замерзне — бачок, можа, і адагрэецца, а вось патрубкі — наўрад ці.

**Паводле Rian.ru**

## Веладарожка без дарожкі для ровараў

**На праспекце Незалежнасці**
ў Мінску нанеслі разметку для равárыстаў.

Праект другой мінскай веладарожкі падышоў да стадыі выканання. Мяркуецца, што яна вызваліць ад веласіпедыстаў галоўную дарогу горада — праспект Незалежнасці.

Цяпер праехаць на ровары можна ад вуліцы Янкі Купалы да аўтавакзала «Маскоўскі». Давядзецца спусціцца з двухколавага сябра толькі некалькі разоў. Без роварных пераездаў засталіся вуліца Кісялёва і Броўкі, завулак Кузьмы Чорнага і выезд з вуліцы Чырвонай.

Праўда, паўнавартаснай веладарожкай на праспекце і не пахне. Гэта, хутчэй, інфармаванне пешаходаў, што недзе побач з імі можа праехаць ровар. Разметка намаляваная не па ўсёй даўжыні праспекта, а толькі на скрыжаваннях. Таму ніякай асобнай велазоны не прадугледжана — равáрыстам давядзецца лавіраваць у натоўпе. Адзіны сапраўдны плюс дарожкі — тое, што пры яе падрыхтоўцы на большасці скрыжаванняў прыбралі нязручныя высокія бардзюры. За гэта скажуць дзякуй не толькі раварысты, але і бацькі з калясkамі, і людзі на вазках.

**Ягор Марціновіч**



СЯРГЕЙ ГУДЗІЛІН

## Надакучыла аб'язджаць ямы на дарозе?

Сайт «БелЯма» дапаможа **вырашыць праблему**.

У Беларусі запрацаваў інтэрнэт-праект «БелЯма» (belyama.by), які збірае інфармацыю пра дэфекты дарожнага пакрыцця ў краіне. Сайт прадугледжвае ўдзел неабыякавых грамадзянаў з аказаннем ім прававой дапамогі.

Прынцып дзеяння праекта: грамадзяне, якія заўважылі ў сваім населеным пункце сур'ёзнае пашкоджанне дарожнага пакрыцця, фатаграфуюць яго і робяць неабходныя замеры. Пасля дасылаюць здымак на сайт.

Аўтарам ідэі з'яўляецца вядомы расійскі барацьбіт з карупцыяй Аляксей Навальны.

**ЯМ**

## Абводную дарогу вакол Белавежскай пушчы адкрыюць 7 лістапада

Яе працягласць — **200 кіламетраў**.

Завершана будаўніцтва абходнай аўтадарогі вакол нацыянальнага парку «Белавежская пушча». «Дарога практычна гатова да эксплуатацыі, рыхтуюцца акты ўводу», — заявіў дырэктар дэпартамента «Белаўтадар» Анатоль Лыцін.

Працягласць дарогі склала прыблізна 200 км. Яна пабудавана па параметрах чацвёртай катэгорыі з шырынёй асфальтабетоннага пакрыцця 9 м. Рэалізацыя праекта ажыццяўлялася за кошт дзяржаўнага мэтавага бюджэтнага фонду нацыянальнага развіцця.

Урачысты ўвод трасы ў эксплуатацыю запланаваны на 7 лістапада.

**БелаПАН**



**Супрацоўнікі кампаніі «Трайпл» вырашылі зрабіць арыгінальны падарунак свайму шэфу Юрыю Чыжу на Дзень нараджэння. Яны замовілі яго партрэт расійскаму мастаку Арцёму Проніну. Юрый Чыж мусіў быў быць намаляваны ў нейкім гістарычным вобразе, і было вырашана зрабіць з яго рымскага патрыцыя. Тога на Чыжу, дарэчы, бел-чырвона-белая.**

**Шаноўныя чытачы! Наступны нумар «НН» выйдзе ў сераду, 16 лістапада.**

## Анекдоты

* * *

Пакуль Мядзведзеў піша ў твітар, Пуцін, Лукашэнка і Назарбаеў чацяцца ў «Ізвесціях».

* * *

Калі дзеці беларускіх міністраў пішуць сачыненне, як яны правялі лета, над іх сшыткамі плачуць настаўнікі.

* * *

Размова ў падатковай:

— А чый гэта нумар мабільнага тэлефона вы мне тут напісалі?

— Гэта не нумар. Гэта ваш падатак за мінулы год.

* * *

«Любая, заўтра мы з табой ідзём у метро. Я дастаў два жэтоны».

* * *

Зняць недарагую кватэру ў Мінску можна хіба на фотаапарат.

* * *

«Трэба мяняць нешта ў жыцці». На шчасце, абменнік апынуўся побач.

* * *

Як я атрымаў свой першы мільён? Здаў у абменніку 120 даляраў.

* * *

Калі злы і стомлены кантралёр электрычкі вяртаецца дахаты, уся сям'я пачынае бегаць з пакоя ў пакой.

**Вікторыя Азаранка (злева) не змагла перамагчы ў выніковым за год турніры ў Стамбуле. На яго сабраліся восем найлепшых тэнісістак свету. У фінале Віка саступіла чэшцы Петры Квітавай у трох сэтах. Цяпер Квітава займае другі радок у агульным рэйтынгу, Азаранка — на пазіцыю ніжэй. Узначальвае спіс датчанка Каралін Вазняцкі.**



## «НН» сто гадоў з вамі

**Рэвалюцыя ў Кітаі шырыцца з кожным днём,** і ўсё болей і болей гарадоў пападае ў рукі новага ўрада. Сілы яго растуць. Відаць, што рэвалюцыянеры моцна вераць, што ім удасца перастроіць усю дзяржаву па-новаму спосабу, завясці свабодныя парадкі: яны ўжо цяпер пачынаюць усё перабудоўваць у тых частках Кітая, каторыя адракліся багдыханскага ўрада.

**«НН». №43. 1911.**

**Беларусь можа ўкласці грошы ў будоўлю новага энергаблока Смаленскай АЭС.** Калі смаленскі праект скончыцца поспехам, беларускія ўкладанні ў сыравінную і энергетычную галіны расійскай гаспадаркі будуць і надалей узрастаць. А наша краіна ператворыцца ў своеасаблівую «падушку» бяспекі паміж Расіяй і Нямеччынай.

**«НН». №44. 2001.**

**У аэрапорце? У машыне? У метро?**

**Чытай pda.nn.by з мабільніка**

Трымайце руку на пульсе pda.nn.by, дзе б Вы ні былі.

НН.Бай забяспечвае аператыўныя навіны, ясныя каментары, відэа і фоты. Усім гэтым Вы можаце карыстацца з мабільнага тэлефона. Праз ПДА-версію Вы можаце сачыць за навінамі і каментарамі, ашчаджаючы трафік. Яна зручная і сціслая.



**У падвале пяціпавярховіка ў Баранавічах злавілі лісяня. Жывёлінка трапіла ў тэхнічны падвал жылога дома па вуліцы Войкава праз тунэль з цеплавымі камунікацыямі.**



**Жыхар Нямеччыны Рольф Бухгольц лічыцца самым запірсінгаваным мужчынам у свеце. Ён атрымаў званне чалавека з самай вялікай колькасцю пірсінгу на целе і патрапіў у Кнігу рэкордаў Гінеса.**

**Наша Ніва**
незалежная газета

заснаваная ў 1906, адноўленая ў 1991
галоўныя рэдактары «Нашай Нівы»:
З.Вольскі (1906), А.Уласаў (1906—1914), Янка Купала (1914—1915), А.Луцкевіч, У.Знамяроўскі (1920), С.Дубавец (1991—2000).

сакратарка рэдакцыі — Наста Бакшанская
шэф-рэдактар — Андрэй Дынько
намеснік галоўнага рэдактара — Зміцер Панкавец
галоўны рэдактар — Андрэй Генадзевіч Скурко
заснавальнік — Прыватнае прадпрыемства «Суродзічы»
выдавец — Прыватнае прадпрыемства «Суродзічы»

АДРАС ДЛЯ ДОПІСАЎ:
220050, Мінск, а/с 537
Tel/fax: (017) 284-73-29, 8-029-613-32-32, 8-029-707-73-29.
E-mail: nn@nn.by
On-line: www.nn.by

**Падпісны індэкс:**
індывідуальны — **63125**
для прадпрыемстваў — **631252**


8 палос фарматам А2, 4 друк. арк. Друкарня РУП «Выдавецтва «Беларускі Дом друку». ЛП №02330/0494179 ад 03.04.2009. Пр. Незалежнасці, 79, 220013, Мінск. Рэдакцыя не нясе адказнасці за змест рэкламных абвестак. Пасведчанне аб рэгістрацыі перыядычнага выдання №248 ад 22 чэрвеня 2009 г., выдадзенае Міністэрствам інфармацыі Рэспублікі Беларусь. Юрыдычны адрас: 220101, г. Мінск, вул. Асаналіева, 15-128. Р/р 3012206280014 у МГД ААТ «Белінвестбанк», Мінск, код 764.

Наклад 7600. Газета выдаецца 48 разоў на год.
Нумар падпісаны ў друк 23.00 01.11.2011.
Замова № 5244.
Рэдакцыйны адрас: Асаналіева 15-128.
Цана дамоўная.
М 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12
П 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12
ISSN 1819-1614